PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (2256) Год XLIV Беласток 8 жніўня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Злачынца павінен сядзець

Міхась ХАРЭВІЧ

Што прыезджых з-за ўсходняй мяжы абкрадаюць у Беластоку, было вядома здаўна. Але каб так, у белы дзень, пры людзях...

У Беластоку праходзіла якраз міжнародная навуковая канферэнцыя, і дзве яе ўдзельніцы з Гродна спяшаліся на абед у рэстаран „Гродна". Не пайшлі самым цэнтрам — па вуліцы Сянкевіча, а карацейшай дарогай, якую ў папярэдні дзень паказала ім знаёмая беластачанка, — па вуліцы Мальмеда. Здавалася б: і гэта ж цэнтр, дык чаго тут баяцца... Ішлі спакойна, не зважаючы на сумачкі, што віселі ў адной і ў другой на плячы. Урэшце ж Беласток — не Чыкага, ды і ад Гродна сюды — як рукой падаць. Таму і адчувалі яны сябе тут амаль як дома, а польская мова не была для іх ніякай таямніцай.

Раптам адна з жанчын адчула, што нехта даслоўна падпоўз да яе ззаду, здаецца, нават дакрануўся да яе ног. Калі адвярнула галаву, на яе плячы не было сумачкі, а толькі матаўся абвіслы рамень ад яе. У той жа час яна заўважыла, што нейкі малодзец здзірае сумачку з яе сяброўкі. Столькі іх, гэтых зладзеяў, яны і бачылі.

Роспач была неймаверная. Не, не таму, што забралі дакументы і грошы (хаця: „шэсцьдзесят долараў гэта мамачка дала", як сцвердзіла адна з жанчын). Жанчыны перажылі шок, што вось нешта такое можна зрабіць у белы дзень, на вачах у людзей і ніхто-ніхто цябе не абароніць. У паліцыі нават яны пазналі ў альбоме злачынцаў аднаго са зладзеяў, але што ж, калі зладзея трэба злавіць на гарачым учынку.

Здарылася гэта ў суботу, 17 ліпеня 1999 года. У той дзень у Консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку звярнуліся 13 грамадзян Беларусі з просьбай выдаць ім дакумент на падарожжа дахаты. Усе яны былі пакрыўджаны ў выніку нападаў і грабяжоў у Беластоку.

Як паінфармаваў нас віцэ-консул Павел Латушка, гэтыя падзеі былі галоўнай прычынай сустрэчы з камендантам Ваяводскай паліцыі Янам Кулешам, куды ён пазней запрасіў каменданта Гарадской паліцыі Юзафа Дышкевіча.

Праблема была адна, — сказаў П. Латушка. — Мы пераказалі ліст ад Генеральнага консула, што ад студзеня да 20 ліпеня 1999 года ў Генеральнае консульства звярнулася 207 грамадзян Беларусі. З іх 126 сцвердзілі, што іх пашпарты, дакументы на самаходы, грошы былі ўкрадзены. Проста іх абрабавалі.

Прыезджых уражвае, што робіцца гэта ў белы дзень, і нельга разлічваць на дапамогу. Людзі баяцца, бо самі дапамагаючыя становяцца ахвярай.

[працяг ☞ 4]



*Мастакі з Еўропы ў Villa Sokrates (з Італіі, Сіцыліі, Шатландыі). У цэнтры — Габрыеля Кардацца з Венецыі, эдытар „Miniature" Сакрата Яновіча.*

# Гняздо беларускасці Sokrates

**У Крынках ствараецца своеасаблівы цэнтр беларускай культуры Villa Sokrates, які 14 жніўня ладзіць першае мерапрыемства: літаратурную сустрэчу „Трыялог беларускі". Яе ініцыятар і гаспадар Сакрат ЯНОВІЧ атрымаў нядаўна ў Варшаве „Вясёлкавы лаўр" за пашыранне талерантнасці.**

***— Спадар Сакрат, віншую з узнагародай.***

— Дзякуй. Я здзіўлены ёю, бо спачатку не ведаў, у чым справа, але мне сказалі, што гэта прызнанне маёй дзейнасці ў напрамку пашырэння талерантнасці. Я разумею, што маё значэнне ў гэтым невялікае, але тут справа ў чым іншым: у стварэнні тэндэнцыі ў грамадскім жыцці. Ну, талерантнасць у нашай краіне надта патрэбная, бо нарастае фанатызм, павялічваецца нецалерантнасць. У сваім жыцці я сам меў шмат непрыемнасці па прычыне нецалерантнасці і таму прыемна, што атрымаў такую ўзнагароду. А яшчэ радуе, што атрымліваю яе ў кампаніі выдатных людзей, як, напрыклад, Аляксандр Малахоўскі, былы маршалак Сейма і вялікі аўтарытэт у грамадска-палітычным жыцці Польшчы.

***— Ці ўзнагарода як-небудзь звязана з новай ініцыятывай, якую Вы пачалі ажыццяўляць у Крынках, а менавіта з цэнтрам беларускай культуры Villa Sokrates?***

— Не думаю. Цэнтр Villa Sokrates задумалі мы, я з калегамі, зусім нядаўна і наўрад, ці пра яго ў капітуле ўзнагароды чулі. Вырашальную ролю адыграла нават не мая літаратура, а публіцыстыка ў польскіх газетах і часопісах, такіх як „Gazeta Wyborcza", „Wprost" ці іншыя.

***— Чым мае быць Villa Sokrates?***

— Тут будзе канцэнтравацца дзеянне накіраванае на абарону беларускай культуры, асабліва літаратуры ад зніштажэння. Хочам дапамагаць беларускай літаратуры прыжыцца ў Еўропе, дзе пра яе мала ведаюць. Бо няма каму яе папулярызаваць. Узнікненне Villa Sokrates, гэта — гаворачы крыху перверсійна — заслуга не столькі мая, колькі прэзідэнта Лукашэнкі. (sic!) Калі там усё беларускае пляжаць так, каб не засталося пасля нас і мокрага следу, то я тут хоць колькі магу, наколькі маю сілы кажу: не! Нябожчык Віктар Варашыльскі некалі сказаў мне знамянальныя словы: калі няма магчымасці закрычаць, то трэба хоць запішчаць. Але, каб быў нейкі знак нязгоды, Villa Sokrates гэта наш супраціў вынішчанню беларускай літаратуры.

***— Як гэта будзе адбывацца на практыцы?***

— Мы, — бо я тут не адзін, але і Лёнік Тарасэвіч, і Юрка Хмялеўскі, і іншыя асобы, якія могуць у тым накірунку нешта арганізацыйна зрабіць, — маем намер выдаваць перыядычны часопіс, напачатак раз у год. У ім будуць публікаваны тэксты пра беларускую літаратуру і, шырэй, культуру на мовах Еўропы. Для прыкладу, калі прафесар Лонданскага універсітэта Арнольд Макмілін напісаў на ангельскай мове эсэ пра прозу Пташнікава, мы яго так і апублікуем, даючы абшырнае рэзюме па-беларуску. Або італьянская паэтка

[працяг ☞ 5]

## Я згодны заняць пасаду віцэ-прэзідэнта

Акружэнне Ельцына памыляецца, калі думае, што Лукашэнка выступіць у ролі траянскага каня, на плячах якога могуць прадоўжыць сваё даўгалецце. Я сам прапанаваў Барысу Ельцыну, каб ён стаў прэзідэнтам саюза, а я згодны заняць пасаду віцэ-прэзідэнта. Але я не збіраюся быць „хлопчыкам на пабягушках" у Ельцына.

[інтэрв'ю ☞ 2]

## Беларускія фэсты

Беларускі народны фэст у Дубічах-Царкоўных быў спалучаны са святкаваннем 80 гадавіны існавання мясцовай пажарнай каманды. З гэтай нагоды паказаліся пажарныя машыны, прылады і абсталяванне, а пажарнікі хадзілі ў святочнай форме. На канцэртную пляцоўку пры беразе на вадзе калектывы выйшлі ў 13 гадзін. Іх песні ўзнагароджваліся бурнымі воплескамі гледачоў.

[болей ☞ 3]

## Мова і гаспадарка

Таго самага дня, калі польскі Сейм займаўся законам аб мове, прэзідэнт Лукашэнка тры гадзіны вучыў дырэктараў калгасаў, вертыкальшчыкаў, выбраных камбайнераў „как убирать урожай". Усё паказвае, што чым даўжэйшымі становяцца прамовы прэзідэнта, тым больш складаная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы.

[паралелі ☞ 4]

## Сезон без музея

Папраўдзе, турысту, які сёлета загляне ў Белавежу, у асноўным астаецца наведванне толькі запаведніка зуброў, а каму па кішэні наняць экскурсавода — можна заглянуць у запаведнік прыроды. Некаторыя турысты трапяць яшчэ ў Асяродак лясной адукацыі „Ягелонскае", у якім працуюць выстаўкі — старых лясных прыладаў і фатаграфічная. На жаль, сюды абмежаваны даезд для аўтамабіляў. А трапіць у гэты асяродак можна двума шляхамі — праз Грудкі або праз Падаляны.

[турызм ☞ 8]

## Беспрацоўе ў Гайнаўцы

Колькасць беспрацоўных у Гайнаўцы рэзка пабольшылася ў пачатку 1999 года. У маі г.г. у Павятовым ведамстве па працаўладкаванні стаялі на ўліку 1402 асобы, якія шукалі працу, калі ў маі 1998 года без працы было 1139 асоб. Ва ўсім Гайнаўскім павеце лік беспрацоўных пабольшаў з 2275 (май 98) на 2606 асоб (май 99 г.).

[працаўладкаванне ☞ 9]

 

# Беларусь — беларусы

## „Славянам" заплацілі доларамі

З 20 па 26 ліпеня ў Віцебску праходзіў фестываль мастацтваў „Славянскі базар". З 15 краін свету прыехалі выступоўцы, каб паўдзельнічаць у любімай імпрэзе Аляксандра Лукашэнкі.

Віцебскі амфітэатр быў пабудаваны яшчэ ў савецкія часы, з мэтай правядзення фестывалю польскай песні, аналагічнага фестывалю савецкай песні, што праводзіўся тады ў Зялёнай Гуры ў ПНР. Але пасля таго, як палякі перасталі „любіць" спяваць па-руску, у Віцебску адмовіліся ад спеваў па-польску. З амфітэатрам трэба было нешта рабіць. Яшчэ Вячаслаў Кебіч вырашыў падмацаваць інтэграцыйныя працэсы „культурнай праграмай". Аляксандр Лукашэнка падхапіў ініцыятыву. Ён адразу назваў фестываль „праздником единения и братства народов" і ўзяў яго пад сваю апеку.

Сёлета Лукашэнка асабіста адкрываў „Славянскі базар". Барыс Ельцын прыслаў з віншаваннямі віцэ-прэм'ера Валянціну Матвіенку. З Кіева прыслаў тэлеграму Леанід Кучма. З боку ўсё выглядала як поўнае „единение властей с народом". Аднак падчас правядзення „вечара гумару", які паказвала расійскае тэлебачанне, гэта ўражанне знікла. Адна з расійскіх актарак расказала наступны анекдот:

„Ляцяць у самалёце Ельцын і Кучма. Украінскі прэзідэнт пытаецца:

— Як Вы думаеце, калі не дай Бог мы разаб'емся, які народ больш будзе бедаваць?

— Беларускі, — адказвае Ельцын.

— Чаму?

— Бо з намі не ляціць Лукашэнка."

Гэты жарт выклікаў авацыю ў гледачоў. Некалькі хвілін не сціхалі апладысменты. Віцябляне паказалі, што хочуць проста адпачыць, паслухаць музыку, а ўсе ідэалагічныя выкрунтасы ім надакучылі. Маладыя выканаўцы ў большасці спявалі песні пра каханне, а не пра „брацтва славянскіх народаў". На жаль, журы не вызначылася аб'ектыўнасцю. Ад пачатку было вядома, што Гран-пры атрымае прадстаўнік Югаславіі. Праўда, грашовую прэмію пераможцам чамусьці плацілі не беларускімі ці расійскімі рублямі, а доларамі ЗША.

**Зміцер Кісель**

## Скасаванае свята

Яшчэ на пачатку 90-х гадоў Вярхоўным Саветам быў вызначаны новы Дзень Незалежнасці Беларусі — 27 ліпеня. Тады дэмакратычная апазіцыя аднеслася да гэтай даты з падазронасцю, бо 27 ліпеня супрацьпастаўлялася ўладамі 25 сакавіку. Аднак у 1995 г. Аляксандр Лукашэнка адмяніў рашэнне парламента і наогул скасаваў Дзень Незалежнасці, зрабіўшы 3 ліпеня Днём рэспублікі.

З тых часоў апазіцыя пачала адзначаць і 27 ліпеня. Традыцыйна арганізатарам святкавання становіцца Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя пад кіраўніцтвам Міколы Статкевіча. У гэтым годзе ўлады дазволілі правесці мітынг на плошчы Бангалор у Мінску.

Аднак гэта не задаволіла арганізатараў, якія планавалі прайсці шэсцем па праспекце імя Францыска Скарыны. Менавіта туды і вывеў Мікола Статкевіч некалькітысячную калону пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Міліцыя спрабавала спыніць дэманстрантаў, але з першай спробы ёй гэта не ўдалося. Першы міліцэйскі кардон быў прарваны ўдзельнікамі акцыі. Толькі з дапамогай значных сіл АМАПа ўладам удалося спыніць шэсце. Пасля міліцыя затрымала каля дзесяці чалавек. Мікола Статкевіч быў прыгавораны да 10 дзён турэмнага зняволення.

**Зміцер Кісель**

## Засталося толькі прымушаць

Нягледзячы на сканчэнне сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, Аляксандр Лукашэнка працягвае выдаваць дэкрэты. Чарговы такі дакумент пад № 29 павінен прымусіць беларусаў лепш працаваць.

Дэкрэт мае назву „Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносін, умацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны". Згодна з ім работнік павінен будзе заключаць з наймальнікам кантракт не менш як на адзін год. Не радзей аднаго разу ў тры гады прайсці атэстацыю прафесійных здольнасцяў. Дэкрэтам таксама прадугледжваецца шэраг мер заахвочвання і пакарання. Аднак усе яны не з'яўляюцца істотнымі, бо галоўнай небяспекай для людзей можа стаць сам кантракт. Калі работнік адмовіцца яго падпісаць, страціць працу. А складаць кантракт безумоўна будзе кіраўніцтва прадпрыемства. Такім чынам дырэкцыя лёгка зможа пазбавіцца занадта патрабавальных і волялюбівых працоўных, іншых — поўнасцю падпарадкаваць.

**(зк)**

## Шарэцкі засцярогся

Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Сямён Шарэцкі, які згодна з Канстытуцыяй з 20 ліпеня павінен выконваць абавязкі прэзідэнта, вечарам 22 ліпеня пакінуў Беларусь.

Па вестках БелаПАН, спікер парламента выехаў у Літву. Некалькі дзён у СМІ паведамлялася пра магчымую просьбу Сямёна Шарэцкага да ўлад Літвы прадставіць яму палітычны прытулак. Аднак гэтыя паведамленні катэгарычна абвергла кіраўнік сакратарыята Вярхоўнага Савета Валянціна Свяцкая. Яна заявіла, што Сямён Шарэцкі знаходзіцца ў Літве з працоўным візітам і хутка вернецца ў Беларусь.

Старшыня Вярхоўнага Савета пачаў баяцца за сваё жыццё адразу пасля 20 ліпеня. Ён хаваўся ў місіі АБСЕ ў Мінску, адмаўляўся сустракацца з журналістамі. Ці вернецца ён у Беларусь, пакажа час. Аднак ужо можна сказаць, што выконваць абавязкі прэзідэнта на радзіме спадар Шарэцкі не ў стане.

**(зк)**

## Аляксандр Лукашэнка: „Я згодны заняць пасаду віцэ-прэзідэнта"

**Афіцыйны Мінск часта папракае „Московские новости" ў аднабаковым асвятленні падзей у Беларусі. Па просьбе рэдакцыі нямецкі журналіст Штэфан ШОЛЬ (штотыднёвік „Die Woche"), які нядаўна сустракаўся з А. Лукашэнкам, узяў у яго інтэрв'ю спецыяльна для „МН".**

(...)

***— Расійскі камуніст Віктар Ілюхін прадказваў, што наступнай ахвярай НАТО будзе Беларусь...***

— У Ілюхіна былі факты. Мы ведаем гэтыя факты. І наша разведка, і расійская нас папярэджвалі аб некаторых планах НАТО. Я не гавару, што альянс прыйшоў бы з вайной да нас. Але месяц таму нашы фашыствуючыя апазіцыянеры, крайнія камуністы і нацыяналісты крычалі, што НАТО, пасля таго, як разбярэцца з Югаславіяй, павінна разабрацца з Беларуссю. А адзін з нашых былых генералаў прызываў, каб натаўскія войскі ўвайшлі ў Беларусь і навялі парадак з правамі чалавека. Але Беларусь сёння не адзінокая. Спроба замахнуцца на рэспубліку, не толькі ў ваенным плане, але таксама і ў палітычным, напрыклад, праз пасрэдніцтва спецслужб, прывядзе да крайне негатыўнай рэакцыі ў расійскім грамадстве. Гэта бесперспектыўна — прабаваць мяне пазбавіць улады сілай або такімі метадамі, якія прымяняліся да Мілошавіча. Мяне, канешне, можна забіць фізічна, але тады на вашай дэмакратыі будзе пастаўлены крыж. Амерыканскія і нямецкія палітыкі вельмі добра разумеюць гэта. Мяне ніхто ніколі не кране, калі мяне не прадасць расійскае кіраўніцтва.

***— Вы праводзіце інтэнсіўныя перагаворы аб саюзе з Расіяй. Югаславія ахвотна далучылася б да вас. Як вы ўяўляеце сабе гэты саюз?***

— Справа датычыць краін былога Савецкага Саюза. На дадзеным этапе гэта будзе нешта сярэдняе паміж СССР і Еўрасаюзам. Я не выключаю, што гэты саюз у будучым далучыць да сябе нашых суседзяў, у тым ліку і Югаславію. Але на сённяшні дзень пакуль што рэальны толькі беларуска-расійскі саюз.

***- А што наконт вашай спрэчкі з Масквой: як павінны выглядаць уладныя структуры гэтага саюза?***

— Я выказваюся за моцнае кіраўніцтва, за шэфа саюзнай дзяржавы. Расія пакуль што да гэтага не гатова: расіяне чакаюць прэзідэнцкіх выбараў. Але будзе так, што дзве дзяржавы згодзяцца, знойдуць нейкі кампраміс.

***— Ці гэта праўда, што Крэмль можа пакарыстацца гэтым саюзам, каб „працягнуць" ідэю трэцяга выбарчага тэрміну для Ельцына?***

— Акружэнне Ельцына памыляецца, калі думае, што Лукашэнка выступіць у ролі траянскага каня, на плячах якога могуць прадоўжыць сваё даўгалецце. Я сам прапанаваў Барысу Ельцыну, каб ён стаў прэзідэнтам саюза, а я згодны заняць пасаду віцэ-прэзідэнта. Але я не збіраюся быць „хлопчыкам на пабягушках" у Ельцына. Усё павінна быць распісана ў функцыях-паўнамоцтвах прэзідэнта, віцэ-прэзідэнта, парламента.

(...)

***— Нядаўна вы сказалі, што Беларусь магла б адмовіцца ад саюза з Расіяй і павярнуцца ў бок Захаду?***

— Гэта зноў жа расійскія СМІ вырвалі маю фразу з кантэксту. Наша знешняя палітыка сапраўды мае свой слабы бок: мы залішне зацыкліліся на Усходзе і забылі пра Захад. Я павінен устанавіць раўнавагу. Чаму, напрыклад, мы павінны мець горшыя адносіны з балтыйскімі краінамі чым з ісламскімі? Ад Расіі мы не намерваемся адварочвацца. А вось з Захадам пастараемся ўстанавіць у дзесяткі разоў больш адкрытыя адносіны.

***— На Захадзе вас лічаць антыдэмакратам — у процівагу Барысу Ельцыну. Адносна папулярнасці ў сябе дома, дык вы значна апярэджваеце расійскага прэзідэнта. Што для вас абазначае дэмакратыя?***

— Даслоўна — „улада народа". І паколькі народ мяне падтрымоўвае, значыць, ён у большай ступені ажыццяўляе гэтую ўладу, чым, як вы параўналі, у Расіі.

***— У маі з-за недастатковай актыўнасці мас правалілася спроба апазіцыянераў правесці ў Беларусі альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары. Чаму тады трэба было браць пад варту кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра?***

— А калі б у вас нямецкі палітык украў 5 мільёнаў долараў, то ён што — не быў бы арыштаваны?

***— Правіннасць, якая яму ставіцца, была ўчынена пяць гадоў таму. Наколькі я чуў, ён тады кіраваў банкам і даў крэдыт, які потым не быў вернуты. Гэта няўдачная банкаўская здзелка, а не крымінальнае злачынства.***

— Дык чаму ён не звярнуўся ў суд. Гэта ж былі не яго грошы, толькі сялян. Гэта сялянскі банк. Мільён ён перавёў канадскай фірме, потым мільён сваёй фірме. Цяпер следства раскрыла новыя факты. Але калі Чыгір паложыць на стол пяць мільёнаў, я буду першым, хто будзе хадайнічаць аб яго вызваленні.

***— Вашы законы забараняюць людзям, якія парушылі ў адміністрацыйным плане правапарадак, выстаўляць свае кандыдатуры на палітычныя пасады. Перш за ўсё гэта датычыць удзельнікаў несанкцыянаваных дэманстрацый. Напрыклад, апошняй. Гэтай, якая 20 ліпеня адзначала сканчэнне тэрміну вашых прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Гэта дапушчальна?***

— Няма закона несправядлівага або справядлівага. Закон гэта закон. Ён прыняты парламентам, падпісаны прэзідэнтам. Такім чынам, ёсць выбар: або ісці па вуліцы і хуліганіць, перакульваючы машыны, або ісці выбірацца ў парламент. Альбо — альбо. Цяпер вярнуся да рэферэндуму 1996 года, калі на выбар прапанаваны былі дзве канстытуцыі, і пазнейшага, калі былі прадоўжаны мае паўнамоцтвы да 2001 года. З двух праектаў канстытуцыі 90 працэнтаў грамадства выбралі мой праект. За прадаўжэнне маіх паўнамоцтваў прагаласавала трохі менш людзей. Ці ж можна фальсіфікаваць такую вялікую перавагу? А Захад заяўляе, што яму наша канстытуцыя не падабаецца. Мне таксама некаторыя рэчы не падабаюцца ў Германіі або ў Штатах. Але я не падскокваю да космасу і не пагражаю Штатам з-за таго, што там да гэтай пары не адменена смяротнае пакаранне. (...) А тое, што мяне на Захадзе не любяць, гэта справа часу. Вы мяне яшчэ палюбіце.

*Московские новости, № 28 (996), 27 ліпеня — 2 жніўня 1999 г.*

## У Мінск за паўгадзіны

З 31 ліпеня, пасля некалькігадовага перапынку, з Гродна ў Мінск можна заляцець на самалёце. Гродзенскі аэрапорт адкрыў авіярэйсы ў сталіцу краіны, а таксама ў Брэст і Магілёў.

Пакуль даляцець ў Мінск з Гродна можна два разы на тыдзень па серадах і нядзелях на самалёце ЯК-40. Тым, каму менавіта ў гэтыя дні трэба тэрмінова патрапіць у сталіцу, гэта вельмі зручна. Калі на аўтобусе ў Мінск трэба ехаць пяць гадзін, а на цягніку ўсю ноч, дык самалёту дастаткова 30 хвілін. Білет у адзін бок каштуе 5 долараў.

**(зк)**





 

# Будзе больш бяспечна

**З новапрызначаным камендантам Павятовай камендатуры Паліцыі ў Бельску-Падляшскім Міраславам ДАМБРОЎСКІМ размаўляе Міхал Мінцэвіч.**



***— Што паўплывала на тое, што Вы былі прызначаны на пасаду павятовага каменданта, хаця не было Вас сярод тых трох кандыдатаў, якім не пашанцавала?***

— У адпаведнасці з законам аб паліцыі падляшскі ваявода ўказала на маю асобу і рашэннем ваяводскага каменданта Паліцыі ад 30 чэрвеня г.г. атрымаў я прызначэнне на пасаду павятовага каменданта ў Бельску. У абаснаванні рашэння ваяводскі камендант напісаў, што ў выпадку маёй асобы меркаванні ваяводы і ваяводскага каменданта былі згодны, а вырашылі пра гэта вынікі конкурсу і мой прафесійны ды арганізатарскі вопыт.

***— Як вы мяркуеце арганізаваць супрацоўніцтва ў павеце, населеным у значнай частцы нацыянальнымі меншасцямі, якія ў пераважнай большасці схіляюцца да левых?***

— Закон аб паліцыі забараняе паліцыянтам належаць да палітычных партый ці сімпатызаваць ім. Менавіта таму ў сваёй працы не буду кіравацца нацыянальнымі прадпасылкамі. Ведаючы сацыялагічныя абумоўленасці павета лічу, што выконваючы свае абавязкі ў адпаведнасці з юрыдычнымі нормамі, прадугледжанымі крымінальна-працэсуальным кодэксам, кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях і іншымі актамі, буду паслядоўным.

***— Ці ёсць у Вас ужо планы правядзення змен?***

— Вядома. Рыхтуючыся да новай пасады, я распрацаваў сваю канцэпцыю работы. Прыярытэтнай справай лічу ўзмацненне адчування бяспекі сярод мясцовага грамадства. Гэтую задачу намераюся выканаць шляхам паслядоўнага ажыццяўлення праграмы прэвентыўных дзеянняў, іначай каючы: павелічэння колькасці паліцыйных патруляў.

***— Статыстыка паказвае, што пасобныя камісарыяты паліцыі дабіваюцца розных паказчыкаў выкрывання злачынстваў, напрыклад, у Боцьках складае ён 76,1%, а ў Орлі — 60,9%. Ці па гэтай прычыне будуць Вамі весціся кадравыя перастаноўкі?***

— Вынікі працы камісарыята ў Орлі лічу сярэднімі. У сваёй прафесійнай практыцы меў я дачыненне з горшымі паказчыкамі. Пасля азнаямлення на месцы з умовамі працы паліцыянтаў напэўна распрацую нейкую канцэпцыю, якая дазволіць павысіць эфектыўнасць працы паліцыянтаў і гэтым самым павялічыць бяспеку грамадзян.

***— Ці Вы ўжо выступілі з прапановай змены каменданта ў нейкім падначаленым Вам камісарыяце?***

— Яшчэ не, але калі рашуся праводзіць кадравыя змены, дык у адпаведнасці з законам буду іх абмяркоўваць з мясцовым войтам.

***— У некаторых выпадках можа гэта аказацца складанай справай, асабліва калі войт не карыстаецца добрай славай у грамадстве. Такая сітуацыя склалася ў Орлі.***

— На жаль, іншай магчымасці няма. Закон выразна ўскладвае на мяне такі абавязак. Мяркую, што войт такія справы будзе кансультаваць прынамсі з управай гміны.

***— Апрача злачынстваў пашыраецца ў нас наркаманія і алкагалізм. Ці Вашы паліцыянты ў далейшым будуць да п'янага войта ставіцца як да нейкага табу?***

— Са справай арлянскага войта я ўжо пазнаёміўся і хачу сказаць, што будзе ён прыцягнены да адміністрацыйнай адказнасці. Не ўяўляю сабе, каб паліцыянты маглі адмаўляцца ўзбуджаць справу супраць нецвярозых чыноўнікаў ці іншых асоб, якія парушаюць закон. Такая адмова пагражае дысцыплінарным спагнаннем. А я такога паліцыянта папрашу пашукаць сабе іншага занятку.

***— Скажыце некалькі слоў пра сябе.***

— Прымаў я ўдзел у конкурсе на павятовага каменданта ў Граеве, аднак запрапанавалі мне пасаду ў Бельску і я згадзіўся. Цяпер жыву ў Элку. У Бельску здымаю кватэру і пасля некалькіх месяцаў, калі акажацца што паліцэйскі калектыў і грамадства мяне ўспрымаюць, тады падумаю ці не пераехаць з сям'ёю на пастаяннае жыхарства ў Бельск. У паліцыі працую ўжо 19 гадоў і за гэты час прайшоў я шлях ад паліцыянта патрульнага ўзвода да начальніка прэвентыўнага аддзялення Павятовай камендатуры ў Граеве. За гэты час накапілася ў мяне многа вопыту і лічу, што скарыстаю яго ў кіраванні Павятовай камендатурай у Бельску. Для мяне гэта выклік, які, мяркую, пры садзеянні ўлад паасобных гмін, старваства і майго калектыву, здолею здзейсніць.

***— І я гэтага Вам жадаю ды дзякую за размову.***

# Беларускія фэсты



*„Каласкі" на сцэне над залівам Бахматы.*

Беларускія народныя фэсты трывала ўпісаліся ў культурна-асветную панараму Беласточчыны. Яны адначасова прывіваюць пашану да беларускага слова, песні, музыкі, умацоўваць нашу беларускую тоеснасць. І мо таму на фэсты прыходзіць многа людзей, каб вынесці адсюль шмат добрых уражанняў і пачуццяў.

**У Дубічах-Царкоўных**

Удзельнікі беларускага маладзёжнага дзявочага калектыву „Каласкі" выехалі з Беластока аўтобусам. Па дарозе ў Дубічы-Царкоўныя, у Козліках, далі да іх харысткі з „Рэчанькі" з Любай Гаўрылюк і Алай Дубец, якія жывуць у гэтай вёсцы. Яны — мастацкія кіраўнікі, першая „Рэчанькі", другая „Каласкоў". Павярнуўшы з бельскай шашы на Плёскі, праз Пасынкі, Крывую, Орлю і Дубічы-Царкоўныя даехалі на месца канцэрту над залівам Бахматы. Прыехалі сюды таксама самадзейнікі: з Краснага Сяла — „Красуні", з Сямятыч — „The Best", а з Беластока — „Прымакі".

Беларускі народны фэст быў спалучаны са святкаваннем 80 гадавіны існавання пажарнай каманды ў Дубічах-Царкоўных. З гэтай нагоды паказваліся пажарныя машыны, прылады і абсталяванне, а пажарнікі хадзілі ў святочнай форме. На канцэртную пляцоўку пры беразе на вадзе калектывы выйшлі ў 13 гадзін. Іх песні ўзнагароджваліся бурнымі воплескамі гледачоў. Пасля абеду ў мясцовым прышасейным бары калектывы накіраваліся на наступны фэст, які запланаваны быў на 17 гадзіну ў Орлі.

Аўтобус, на якім ехалі „Каласкі" і „Рэчанька", затрымаўся ў Крывятычах пры хаце н-р 25, дзе жывуць Васіль і Анна Сулімы. Іх унучка, Валя Суліма, спявае ў „Каласках" і яна запрасіла ўсіх калег на пачастунак з „грыля", які падрыхтавалі бабуля з дзядулем і Валіна мама.

**У Орлі**

Беларускі народны фэст адбываўся на пляцы, які мяжуе з сінагогай (помнікам старадаўнасці), пабудаванай у XVII стагоддзі і нядаўна адрэстаўраванай (дзейнічала яна да 1941 года). На падрыхтаванай да такіх мерапрыемстваў крытай сцэне выступілі тыя самыя калектывы, што і ў Дубічах-Царкоўных ды мясцовы хор „Арляне". Усе выступленні ўспрымаліся вельмі цёпла і сардэчна, а „Прымакі" дасканала забаўлялі прысутных. Пад іх песні публіка раскошна танцавала, а анекдоты Юркі Астапчука і Любы Гаўрылюк выклікалі многа смеху.

Для самадзейнікаў і гасцей быў падрыхтаваны пачастунак у мясцовай прыгожай школе, якую ўзначальвае Яўгенія Васілюк. „Арляне", пад музыку свайго дырыжора Мікалая Фадзіна, песнямі ўпрыгожвалі сардэчнае спатканне гаспадароў і гасцей.

* * *

25 ліпеня, як у Дубічах-Царкоўных, так і ў Орлі фэсты прайшлі па раней распрацаваным сцэнары. Ад імя арганізатараў выступаў старшыня ГП БГКТ пасол Сейма Ян Сычэўскі, а ад гмінных упраў войты — Анатоль Паўлоўскі і Міхась Іванчук. Вяла канцэрт і прапагандавала страхавую фірму „Поліса" і пенсіённы адкрыты фонд „Эго" Валянціна Ласкевіч. Мерапрыемствы ўдастоілі Генеральны консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка, пасол Сейма Сяргей Плева, дырэктар Беластоцкага аддзялення „Полісы" Станіслаў Лапіч і працаўнік гэтай жа ўстановы Васіль Гулька — усе з жонкамі. У Дубічах-Царкоўных быў яшчэ намеснік маршалка Ваяводскага сейміка Аляксандр Усакевіч, які заадно з'яўляецца ваяводскім камендантам пажарных каманд.

**Міхась Хмялеўскі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*„Арляне" перад выхадам на сцэну.*

# Злачынца павінен сядзець

[1 ☞ працяг]

Каго абрабоўваюць? Дастаткова, што пачуюць рускую або беларускую мову ў краме ці на рынку. Будуць ужо пільнаваць гэтую жанчыну (так, жанчыну, бо на мужчын не нападаюць; мо здарылася такое з адным-двума мужчынамі), ідуць за ёю. Калі жанчына ідзе з мужчынам, чакаюць, калі той адвернецца, або рукі яго будуць заняты, тады падскокваюць да жанчыны і вырываюць у яе з рук сумачку.

Сумачка — ласомы кусок для зладзея. Яна перш за ўсё прыцягвае яго ўвагу. Лёгка яе сарваць з пляча ці адрэзаць ад ручкі. Але вось і, здавалася б, нерэальныя абразкі. Сядаюць у аўтамабіль муж з жонкай, ён — з левага боку, ад руля, а яна — з правага. Бандыты падбягаюць да мужчыны, прыціскаюць яго да самахода, а ў яе без праблем вырываюць сумку з рук.

Або вось муж выйшаў, разглядзецца за таварам, а жонка сядзіць у аўтамабілі, пільнуе яго. На каленях моцна трымае сумачку, у якой усе іх грошы. Раптам адчыняюцца дзверы машыны, злодзей хапае яе скарб і ўцякае. Што можа яна зрабіць?! Дагоніць?..

А некаторыя жанчыны ўмудраюцца схаваць сумачку пад кафтан. Думаеце, там не знойдуць? Патрапяць павaліць бабу ў снег і знайсці ў яе грошы ўсюды, нават тады, калі ў яе руках сумачкі не было. Злодзей разважае па-свойму: без грошай чаго хадзіць па крамах...

Толькі за адзін уік-энд 16-18 ліпеня зладзеі ўкралі ў грамадзян Беларусі, якія прыехалі ў Беласток да сваякоў ці за пакупкамі, каля шасьнаццаці тысяч злотых!

І ўсё дзеецца ў цэнтры горада: на алеі Пілсудскага, на вул. святога Роха, Сянкевіча, Мальмеда, Гаёвай, ну, а ўжо традыцыйна на вул. Кавалерыйскай, дзе знаходзіцца рынак. Ну, каб яшчэ ў нейкіх закамарках, на цёмнай вуліцы!

Вядома, што рабуюць і палякаў. Але грамадзянку Беларусі абрабаваць лягчэй. Яна ўзрушана, стомлена, хоча як мага хутчэй паехаць дахаты. Зладзеі вельмі добра ўлаўліваюць псіхалагічны момант. Жанчын б'юць, яны прыходзяць з сінякамі. Надоўга застаецца стрэс, маральная крыўда. Адзін пакрыўджаны мужчына сказаў, што ніколі ў жыцці, за ніякія грошы ён не прыедзе ў Польшчу. У яго ўкралі машыну.

Цяжка абвінаваціць чалавека, якога не злавілі на гарачым учынку. Ён даўно перадаў усё тое, што ўкраў, сваім кумплям, якія стаяць у арках, у брамах. І... шукай ветру ў полі.

Тут я бачу вялікую ролю паліцыі ў прафілактыцы, прэвентыўнай дзейнасці, заўважае віцэ-консул Павел Латушка. Усяго ў выніку злачынстваў у нашай акрузе былі пакрыўджаны 164 асобы (кралі аўтамабілі, былі напады са зброяй). Людзі часамі думаюць, што гэта нападаюць усходнія гангі. Хачу падкрэсліць, што на тэрыторыі ўсёй нашай консульскай акругі (Падляшскае, Люблінскае і Вармінска-Мазурскае ваяводствы) усяго 23 грамадзян Беларусі былі затрыманы па падазрэнні ў разбойных нападах. Злачынца не мае ні грамадзянства, ні нацыянальнасці. Злачынца павінен сядзець у турме.

Консульства РБ у Беластоку праводзіць інфармацыйную працу праз беларускія газеты, як павінны сябе паводзіць беларускія грамадзяне ў Беластоку і наогул у Польшчы. Папярэджваем, каб у ніякім выпадку яны не хадзілі з сумачкамі і не паказвалі вялікіх грошай.

Трэба падкрэсліць, падсумаваў усё сказанае П. Латушка, што ваяводскі камендант паліцыі абавязаў гарадскога каменданта прадпрыняць усе дзеянні, накіраваныя на раскрыццё злачынстваў. І прадпрыняць дзеянні прэвентыўнага характару. Калі Польшча хоча, каб да яе прыязджалі грамадзяне з Усходу і інвеставалі зароблены на тэрыторыі Беларусі грошы, дык Польшча павінна паклапаціцца аб тым, каб грамадзяне Беларусі адчувалі сябе ў Польшчы добра.

**Міхась ХАРЭВІЧ**

PS. У сераду, 21 ліпеня мы бачылі, як на вуліцы Мальмеда прахаджваліся паліцыйныя патрулі.

**М. Х.**

# Мова і гаспадарка

22 ліпеня Сейм РП прагаласаваў за прыняццё „Закона аб польскай мове", у адпаведнасці з якім на тэрыторыі Польшчы забараняецца змяшчаць інфармацыю, надпісы на таварах, назвы фірмаў на замежных мовах. Некаторыя публіцысты і палітыкі, асабліва ліберальнага ўхілу, звяртаюць увагу на ідыятызм прынятага закону. У гастранамічных пунктах цяпер замест „хот-догаў" павінны мы прасіць „gorącego psa". З другога боку англамоўныя шыльды на будынках у Варшаве здаўна выклікалі пытанне: каго і аб чым хочуць інфармаваць іх уласнікі?

Фактам ёсць, што польскай мове ў Польшчы нішто не пагражае, хаця ў выніку надыходу хвалі амерыканскай люмпенскай субкультуры, моладзь становіцца штораз больш вульгарнай. Але ніякі закон не стрымае такой формы выказвання, якую напрыклад у сваім рэпертуары прапагандуе гурт „Nagły Atak Spawacza", ні нейкі міністр Капэра. Таму пасля доўгіх гадоў змагання з абортамі ці супрацоўнікамі бяспекі, складаецца ўражанне, што нардэпы знайшлі сабе новую штучную тэму для спрэчак, быццам бы не было іншых праблемаў у краіне.

Сенсацыяй стала б тое, калі б такі закон прыняў парламент Беларусі. Можа нехта палічыў бы гэта нават зваротам у гісторыі рэспублікі, але больш рэальным можа там стаць закон пад загалоўкам „Об запрещении использования белорусского наречия".

Таго самага дня, калі польскі Сейм займаўся законам аб мове, прэзідэнт Лукашэнка тры гадзіны вучыў дырэктараў калгасаў, вертыкальшчыкаў, выбраных камбайнераў „как убирать урожай". Усё паказвае, што чым даўжэйшымі становяцца прамовы прэзідэнта, тым больш складаная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы. Ад самай балбатні не вырасце ні большая пшаніца, ні напоўняцца саляркай бакі камбайнаў.

Ведаюць аб гэтым польскія парламентарыі і займаюцца тэмамі больш бяспечнымі. Пра маральны, культурны, нацыянальны аспект аховы роднай мовы можна гаварыць безупынна і кожны, хто што-небудзь скажа, будзе мець сваю рацыю. На тэму гаспадаркі ці іншых спраў, якімі пастаянна жыве грамадства, выказваюцца толькі прэм'еры, міністры, старшыні. Ад Лукашэнкі адрозніваюцца яны толькі тым, што гавораць найчасцей тры хвіліны замест трох гадзін, але сэнс выступленняў вельмі падобны. Даўжыня прамоў паказвае, аднак, размер перажытварэнняў, якія адбыліся ў нашай краіне ў апошніх гадах. У капіталізме найважнейшае гэта эканоміць час. І так, напрыклад, у тым жа Сейме быў зачытаны рапарт Вярхоўнай кантрольнай палаты, у якім было сказана, што плата ў бюджэтнай сферы ўзрасла на 12 працэнтаў. На гэты паказчык запрацавала таксама павышэнне на 28 працэнтаў платы ў цэнтральнай адміністрацыі, спецслужбах, паліцыі і арміі. Напэўна з прычыны ашчаднасці часу ніхто не звярнуў увагі на тое, колькі ў сапраўднасці атрымалі настаўнікі ці санітаркі. Міністр адукацыі ці аховы здароўя ў лукашэнкаўскім стылі, але ў кароткіх выступленнях, пераконваюць штораз больш аслупянелых настаўнікаў (у тым і матэматыкі), што два і два гэта дванаццаць.

Пэўна найменш разумеюць новую эканамічную палітыку (таксама НЭП) сяляне. Ужо пару гадоў тлумачаць ім, што пры камунізме былі яны пастаянна крыўджаныя дзяржаўным апаратам, але цяпер узровень іхняга жыцця пастаянна ўзрастае. Адзіная прабема, якая перашкаджае сялянам быць цалкам шчаслівымі гэта тое, што прадукуюць яны зашмат малака, мяса, збожжа, якое краіне і жыхарам горада цалкам непатрэбныя. Танней купіць бельгійскую курацiну, англійскую ялавічыну, нямецкія памідоры і муку. Тамашнія сяляне, больш адукаваныя, навучыліся за месяц разводзіць двухкілаграмных курэй і карміць іх амаль уласным г...

Пасля апошніх рэформаў найбольш — паводле слоў прэм'ера і міністраў — павінны быць задаволеныя людзі (парадокс!!!) хворыя. Медыцынскае абслугоўванне быццам бы стала працяйшае, прапала карупцыя, лекары проста сядзяць і чакаюць пацыентаў. А прытым якія яны сталі ветлівыя! Больш хворыя сумуюць толькі, што пакуль гэтая рэформа сыдзе з урадавых паліклінік у раённыя амбулаторыі, іх ужо не стане ў жывых. Што ж, ім проста не пашанцавала.

У папулярных навінах па першай праграме тэлебачання найбольш верагоднай інфармацыяй з'яўляецца бадай прагноз пагоды.

**Яўген МІРАНОВІЧ**




Мал. Алеся СУРАВА

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**2. Што такое лінгвацыд**

Свядомае мэтанакіраванае знішчэнне асобнай мовы як галоўнай азнакі этнасу (народнасці, нацыі) называецца **лінгвацыдам** (ад лацінскіх словаў *лінгва* — мова і *цэдэрэ* — забіваць). Яно накіравана перад усім супраць пісьмовай формы мовы.

Лінгвацыд накіраваны на ліквідацыю этнасу як асаблівай культурна-гістарычнай супольнасці, на **дэнацыяналізацыю** прадстаўнікоў этнасу або страту імі пачуцця прыналежнасці да гэтага народа.

Падобная ліквідацыя этнасу (народа, нацыі) не з'яўляецца фізічным знішчэннем прадстаўнікоў этнасу (народа, нацыі), якое завецца **генацыдам**.

Лінгвацыд з'яўляецца перадумоваю масавай дэнацыяналізацыі. Калісьці султаны Егіпта куплялі на нявольніцкіх рынках Усходу падлеткаў цюркскага, чаркескага, грузінскага паходжання і фармавалі з іх гвардыю мамелюкаў. Гэтая гвардыя потым захапіла ўладу і кіравала краінай аж да паходу туды Напалеона Банапарта. Мамелюкі забыліся на свае родныя мовы і сталі найчысцейшымі арабамоўнымі егіпцянамі.

Асманскія туркі забіралі падлеткаў з падпарадкаваных імі хрысціянскіх (а потым і іншых) народаў у енічэры (новае войска) і перараблялі іх у сапраўдных турак-мусульманаў — янычараў.

Галоўнаю ўмоваю стварэння мамелюкаў і янычараў было знішчэнне іхняй мовы (лінгвацыд) і памяці пра этнічнае мінулае (для гэтага працэсу я прапаную слова **мнемацыд** ад грэчаскага *мнеман* — памяць і ўжо знаёмае *цэдэрэ*).

Без лінгвацыду і мнемацыду немагчымая страта людзьмі адчування сваёй этнічнай (нацыянальнай) прыналежнасці. Без страты людзьмі сваёй этнічнай прыналежнасці не можа адбыцца **асіміляцыя** — паглынанне аднаго другім.

Аб мнемацыдзе падрабязна пагаворым іншым разам. І лінгвацыд, і мнемацыд адбываюцца ўва ўсіх без выключэння шматнацыянальных дзяржавах, паколькі там немінуча сутыкаюцца пануючыя і падпарадкаваныя яму этнасы. Як будзе называць сябе пануючы этнас — „братэрскім" ці неяк інакш, усё роўна: абое рабое.

Ані сутнасці, ані канчатковай мэты лінгвацыду і мнемацыду не мяняе тое, што іхнія формы могуць быць адкрытымі і прыхаванымі, жорсткімі і памяркоўнымі.

Хрысціянскае, галоўным чынам грэчаскамоўнае жыхарства Малой Азіі на працягу некалькіх стагоддзяў панавання Асманскай імперыі па большай частцы паступова пераняла іслам (мусульманскае веравызнанне) і турэцкую мову. Тых, хто мацней трымаўся грэчаскай мовы і хрысціянскай веры, паступова выцяснілі і нават знішчалі і канчаткова высялілі ў выніку грэка-турэцкай вайны 1921-1923 гг. Зараз тэрыторыя Турцыі па большасці заселена туркамі — нашчадкамі колішніх грэкаў, якія былі дэнацыяналізаванымі і асіміляванымі.

Што да беларускай мовы, то лінгвацыд у дачыненні да яе мае даўнюю традыцыю. Ён вядзецца рознымі спосабамі. „Руплівцы" на ніве асіміляцыі беларусаў добра ведаюць: калі няма мовы, няма і этнасу, народу, нацыі.

Вось чаму адным з мерапрыемстваў асімілятараў была і застаецца забарона мовы. *(працяг будзе)*

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**

# Гняздо беларускасці Sokrates

[1 ☞ працяг]

Крыстыяна Мольдзі Равенна (перакладае аднаго з нашых аўтараў) напісала падобнае эсэ, то мы гэта апублікуем на італьянскай мове, а рэзюме на ангельскай і беларускай. Але Мольдзі Равенна таксама паэтка і мы будзем намагацца перакласці нешта яе на беларускую мову. Гэта такі знак удзячнасці, але не толькі. Нашай стратэгіяй будзе стварэнне, так сказаць, гнёздаў зацікаўлення беларускасцю ў Еўропе. Маем шанц напачатак цераз пасрэдніцтва нешматлікіх аўтараў, якія ўжо ёю цікавяцца і пра яе пішуць. А пераклады на беларускую мову маюць падвойнае значэнне. Па-першае, любому аўтару заўсёды цікава пабачыць пераклад сваіх твораў і прыемна, калі яго перакладаюць. А па-другое, такія пераклады ўваходзяць у субстанцыю беларускай літаратуры, еўрапеізуюць яе. Справа ў тым, каб беларуская літаратура хутчэй набывала еўрапейскі кантэкст. Каб не быў

**Вось рыхтуецца першы нумар „Anno Albarutheni" („Год беларускі"). Перыёдык, прысвечаны беларускай культуры іначай, менавіта аналітычнай перш за ўсё творчасці зацікаўленых ёю ў Еўропе, далейшым свеце. Адсюль прынцыповая шматмоўнасць выдання. На беларускую — перакладаюцца толькі мастацкія творы і толькі прапанаваныя еўрапейскімі супрацоўнікамі, прычым абавязкова ў кантэксце актуальнага літаратурнага працэсу ў іх краінах. Творы нашых жа аўтараў друкуюцца выключна ў іншамоўных трансляцыях.**

**Такая выдавецкая канцэпцыя паслужыць прыжыванню беларускай культуры, асабліва літаратуры, на Захадзе; паспрыяе доследам яе. Адначасна дасць некаторую ўяву самому беларускаму культурнаму чытачу пра розныя жывыя з'явы, новыя погляды на духоўны патэнцыял беларусаў.**

**Імкнемся, каб беларушчына перастала быць усяго ўнутранай справаю саміх беларусаў, абочынай культуры наогул.**



стварыць такое гняздо ў Венецыі, Лондане ці Гановеры. Завязваем сувязі з брэтонскімі аўтарамі.

***— А беларускія аўтары? Ці будзе і для іх у часопісе месца?***

— Людміла Рублеўская напісала вельмі добрае эсэ пра актуальны стан беларускай літаратуры. Мы яго апублікуем не па-беларуску, але на адной з еўрапейскіх моў, каб людзі ў Еўропе змаглі з яго даведацца пра беларускую літаратуру. Нам разыходзіцца пра тое, каб інтэлектуальная Еўропа, якая ведае пра беларускую літаратуру з энцыклапедыі, памаленьку ёю зацікаўлялася, ла павернута ў адзін, усходні бок. Бо культура ўсебаковая.

***— Villa Sokrates, значыць, мае быць нашай візітнай картачкай у свеце. А якое месца зойме яна паміж ужо існуючымі і ствараныімі беларускімі культурнымі цэнтрамі на Беласточчыне?***

— Мы ў ніякім разе нікому не канкурэнты. БГКТ, для прыкладу, гэта арганізацыя народная, БАС — студэнцкая. Кожная арганізацыя мае свой профіль, сваю мэту і кліентаў. Villa Sokrates, гэта структура абсалютна элітная, эксклюзіўная, арыентаваная выключна на літаратурнае і мастацкае асяроддзе. Яна будзе жыць у творчых асяроддзях паэтаў, пісьменнікаў, перакладчыкаў. Напэўна Villa Sokrates будзе мець значэнне Літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа", хаця б таму, што мы тут на месцы і будзем яго часцей экспанаваць. Зрэшты, ёсць каго, маем добрых паэтаў, як хаця б Ян Чыквін. Несумненна, нейкі грамадскі ўплыў Villa Sokrates мець будзе, але шырэйшага водгуку, можа па-за самымі Крынкамі, мы не спадзяемся.

***— Якія найбліжэйшыя планы?***

— У палове жніўня ладзім тут сустрэчу з сімвалічнай назвай: трыялог беларускі. Прымуць у ёй удзел нашы беластоцкія аўтары, пісьменнікі з Беларусі і аўтары з Заходняй Еўропы, як трэці бок. Далей усё будзе залежаць ад фінансаў. Наша актыўнасць задарма, бо ні я, ні хто-колечы з маіх калег на гэтым не зарабляе. Грошы патрэбныя на часопіс і сустрэчы. Мы думаем, разам з выхадам свайго часопіса ладзіць некалькідзённую бяседу яго аўтараў з Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны, так больш-менш дзесяць чалавек. Такія літаратурныя сустрэчы, свабодныя дыскусіі, сімпозіумы будуць мець вельмі вялікае значэнне, бо такім чынам мы створым як быццам радзіну, гурт людзей знаёмых, дапамагаючых адзін аднаму і зацікаўленых пашырэннем беларускай літаратуры ў Еўропе.

Успамаглі ўжо нас некаторыя бізнесмены, як Міраслаў Целушэцкі ці Валянцін Сельвясюк, нашы добрыя знаёмыя. У апошні час атрымалі мы чатыры тысячы злотых ад Фонду Баторыя. Гэта сумы недастатковыя, але пачатак заўсёды цяжкі. Не будзем планаваць многа, планы лёгка рабіць. Горш з іх ажыццяўленнем. Дай Бог, каб нам удалося выпускаць раз у год часопіс, якому мы надалі лацінскую назву „Anno Albarutheni", гэта значыць „Беларускі год". Лацінская назва не з фанабэрыі, а каб была чытэльная ў Еўропе, каб, калі хто яго возьме ў рукі, ведаў чаго спадзявацца

***— Сорак гадоў Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" чакала свайго часопіса. Першы нумар „Тэрмапілаў" з'явіўся толькі ў пачатку гэтага года. Ці „Anno Albarutheni" не будзе яму канкурэнцыяй?***

— Што Вы? „Тэрмапілы" — гэта часопіс для беларускіх аўтараў, а наш — для аўтараў еўрапейскіх, якія цікавяцца беларускай літаратурай, культурай, для сяброў беларускай літаратуры ў Еўропе. Няма між намі ніякіх супярэчнасцей, а наадварот, мы будзем дапаўняцца, бо шмат з таго, што публікуюць „Тэрмапілы" з'явіцца ў нас у перакладзе. Цяпер, напрыклад, адзін перакладчык працуе над дваццаццю вершамі Яна Чыквіна. У „Тэрмапілах", па зразумелых прычынах, ён іх, гэтых перакладаў, не апублікуе, ну бо і як? Таму ініцыятыва Villa Sokrates ёсць такім добрым дапаўненем і „Тэрмапілаў", і ўсяго нашага літаратурнага і культурнага руху. Мы сваім перыёдыкам як быццам прабіваем акно ў Еўропу...

***— Удачы!***

Інтэрв'ю ўзяў Мікола ВАЎРАНЮК

*Фота Гжэгажа ДАМБРОЎСКАГА*

# Фірма

***(працяг; пачатак у 31 нумары)***

**2.**

Кавярня „Верас" перажывае цяжкія дні. Рыначны капіталізм рассеяў па горадзе шмат такіх прыбыткаў — маленькіх, утульных, з дыскрэтнай музыкай, з культурнай абслугай. Без рызыкі сустрэчы з гаманлівым, перасычаным танным вінparam пралетарыятам, заглядаюць сюды новыя эліты — эканамічныя, палітычныя, а нават і культурныя. Пад глыток „больса", пад порцыю арыентальнага вінегрэту прадаўжаюцца распачатыя ў фірмовых ці самаўрадавых кабінетах дыскусіі. Бізнес, біржа, аблігацыя, *hossa* і *bessa* — такія, памазаныя таямнічасцю словы перакідваюцца з вуха на вуха, з вуснаў у вусны. Перакідваюцца шэптам, хаця той і сёй, асабліва малады, пачынаючы акула, крадкомымі позіркамі правярае, ці таямнічыя словы выклікаюць пажаданае ўражанне на твары прыгожай пані барменкі.

Пажылыя донжуаны, тыя, хто ад жыцця што-небудзь дабіўся, гэту пустую фінансавую лексіку заступаюць больш канкрэтнай збруяй. Залатыя персцені, цяжкія, бліскучыя ланцугі, якія нібы выпадкова высоўваюцца з-пад расшпіленай кашулі, або — звычайна — нескупыя „чаявыя". Эх, барацьба ты, жаноча-мужчынская, спрадвечная! Чым даўжэй чалавек у гэтай вайне, тым больш цэнная кожная адна, нават абы-якая здабыча. І мала важнае за які кошт.

У малым горадзе колькасць такіх утульных закавулкаў, наогул несуразмерная да лічбы патэнцыяльных кліентаў, вось і ўсе тыя „Верасы", „Цюльпаны", „Андрамеды" вядуць цяжкое, беспардоннае змаганне за чалавечыя душы.

Даручыўшы паліто вымаляванай пані гардэробшчыцы, Толік Рубель мацней сціснуў каштоўны дыпламат і паплыў у абдымкі чырванавата-цьмянага святла. У навугольніку, за частаколам лакіраванай сасніны, схаваўшыся ад позіркаў выпадковых кліентаў чакаў ужо старшыня суполкі „Фрэйс" пан Ігар Бараба, у прыватнасці муж кіяскёркі Ірыны Барабы, бацька тройкі дзетак і адначасова — Толікаў сябар.

— Вітаю пана дырэктара.

— Маё шанаванне пану старшыні.

Гэты цырыманіял, прыпраўлены дозай жартоўнай канфідэнцыяльнасці больш адрасаваўся нешматлікай публіцы, крышку і членам персаналу, ды таксама — не можна запярэчыць — быў падаркам уласным вушам, уласнай фанабэрыі. Прыемна калі нехта звяртаецца да цябе поўным пашаны „пан дырэктар", нават калі гэта не ананімны твой паднаўлены, а здаўна вядомы, сардэчны Ігар.

Сцвярджэнне, быццам бы Толік і Ігар спажылі супольна бочку солі — было б далёкае ад праўды, аднак працуючы месяцаў два ў мясцовай фабрыцы перагрузілі не адну кучу смаліны. А трэба ж помніць, што супольна нажытыя мазалі на далонях частаператвараюцца ў моцныя вузлы сяброўства. І калі Толік, заахвочаны расказамі пра бізнесы, якія на працягу года перавозяць чалавека з блёкавай кватэры ў палац з басейнам, бразнуў фабрычнымі дзвярыма ды падаўся шукаць лепшы хлеб, сяброўства загадала Ігару зрабіць такі ж крок. Дом з басейнам аказаўся ілюзіяй, аднак рыба каўкнула прынаду. І вось гэта прынада і Толіка, і Ігара давяла да самастойнасці.

Першая выйшла на свет фірма „EXPO-Anatol". Яна не выйшла без прычыны, абы толькі паглядзець на залатое сонейка ды падрамантаваць невясёлыя статыстыкі беспрацоўных. Яна з'явілася з канкрэтнай мэтай: на сто працэнтаў забяспечыць у бульбу суседнюю дзяржаву, дзе з-за праліўных дажджоў, увачох амаль прападала дабро.

Чулі ў гэтай дзяржаве пра Толікаву фірму ці не чулі — цяжка сказаць. Праўдападобна чулі, бо калі аказалася, што фінансавыя магчымасці фірмы — а гэта абазначае пенсіі цесця, цешчы і жончыну зарплату — ньздольны напоўніць бульбай дзесяць мільёнаў бэбахаў, тады, вось, кіраўнік успомненай дзяржавы даў дэкрэт: забаранялася ісці праліўным дажджам прынамсі да Вялікадня. Метэаралогія не падпарадкавалася зямным загадам. Дажджы памацнелі, потым ператварыліся ў град і снег, аж белым пухам прыкрыліся някранутыя бульбянішчы. Фірма „EXPO" зіму якасьці пратрымала. Падмацаваная кабанчыкам з вёскі, дацягнула да Вялікадня, чаго не скажаш пра карміцеля гэтага ж парсюка. Цесць расстаўся са светам у Вялікі пост і быў гэта беспамылковы знак, што датацыі для фірмы паменшацца на працэнтаў прынамсі трыццаць тры.

У такіх выпадках песімісты апускаюць рукі, пакідаюць усё на волю лёсу. Аптымісты шукаюць нейкі асэнсаваны выхад і — здараецца — вышэйшая сіла, правільна ацаніўшы і адвагу, і добрыя намеры, працягвае дапаможную далонь.

У Толікавым выпадку нечаканая сіла не спусцілася з высокіх парогаў, можна сказаць — па паходжанні была гэта зусім зямная моц. На трэці дзень Вялікадня нарадзілася фірма „Фрэйс" і, пачынаючы з серады, каб не марнаваць час, разглядалася за салідных, адказнымі кааператарамі.

Узяўшы пад развагу ўсе ранейшыя сувязі, невялікую прастору мястэчка, а нават і тыя супольныя нажытыя мазалі, не магло здарыцца так, каб на шляху ў лепшую будучыню гэтыя дзве фірмы размінуліся.

***(працяг будзе)***

Міхась АНДРАСЮК

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Удзельнікі журналісцкіх курсаў „Polis".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Згуртаванне маладых журналістаў **„Polis"** заснавалі ўдзельнікі журналісцкіх варштатаў, звязаных з рэдакцыяй **„Polis"**, часопіса пра публічнае сужыццё. Згуртаванне фармальна існуе з 1995 г. Мэтай яго дзейнасці з'яўляецца:

а) азнаямленне і практыка ў прафесіі журналіста,

б) прапаганда прынцыпаў дэмакратыі, рыначнай гаспадаркі і правоў чалавека,

в) наладжванне і падтрымка міжнародных сувязей,

г) дзейнасць дзеля пашырэння і аб'яднання асяроддзя „Polis".

Прэзідэнтам згуртавання з'яўляецца Губерт Шпэрль.

Ініцыятарам згуртавання і галоўным рэдактарам часопіса „Polis" з'яўляецца Галіна Бартноўская.

## Будзем ісці адной дарогай

**Інтэрв'ю з журналісткай Галінай Бартноўскай, ініцыятарам і апекуном праграмы „Polis".**

***— Адкуль думка ладзіць журналісцкія курсы для маладых?***

— Ідэя ўзнікла даўно таму. Дваццаць гадоў я працавала сакратаром штомесячніка „Znak". Там у вялікай ступені мы дапамагалі пачаткоўцам. Падобную дзейнасць мы вялі ў „Tygodniku Powszechnym". На жаль, гэтая практыка пачала забывацца ў пачатку 90-х гадоў. Рэдактары мелі штораз менш часу. Выявілася аднак, што нельга прымаць на працу людзей *з вуліцы*, што стажыроўку лепш заступіць падрыхтовачнымі курсамі. „Polis" узнікла са спалучэння дзвюх ідэй. Пачаткова рэалізаваў гэта Інстытут палітычных студыяў ПАН. Там узнікла прапанова рэдагаваць часопіс пра грамадскае жыццё. Аднак з выдавецкіх планаў нічога не атрымалася. Тады папрасілі мяне, каб паміраваць працай рэдакцыі. Разам з сабой я прынесла дасведчанні — раней рэалізавалі мы праект супрацоўніцтва з маладымі. Праграма ў першую чаргу адклікалася да студэнтаў. Падтрымаў нас Хельсінскі фонд правоў чалавека.

***— Ці праца з маладымі людзьмі лёгкая?***

— Кожная сур'ёзная праца не з'яўляецца лёгкай. Нягледзячы на ўсё, яна прыемная. Самай прыемнай для мяне справай — сітуацыя, калі людзі адкрываюцца, пераадольваюць пэўныя межы, супольна нешта ствараюць. Нашы варштаты заўсёды былі іншыя як звычайная школа журналістыкі. Узнікла асяроддзе маладых людзей, якія ўмеюць супрацоўнічаць.

***— Чаму ў такой вялікай ступені звяртаеце ўвагу на праблемы нацыянальнай меншасці?***

— Гэта важная і цікавая праблема. Звычайна, падбіраем месца для лагера, каб мець магчымасць сутыкнення з меншасцямі. Гэта справа, якую трэба зразумець. Стараемся запрашаць людзей з тамашняга асяроддзя, на жаль, не заўсёды гэта атрымоўваецца. Амаль на кожных варштатах маем дачыненне да меншасцей. Іх прадстаўнікі дапамагаюць нам пабачыць праблемы асяроддзя. Цікавіць нас пункт сутыкнення культур, атмасфера і іх тэмпература.

Адной з нашых мэт, паводле статута, правы чалавека. Мы вядзем на гэтую тэму адукацыйную і інфармацыйную дзейнасць. Гаворачы пра рэлігійныя, нацыянальныя, канфесійныя праблемы, мы не выказваемся за нейкім бокам. Правы чалавека мусяць мець супольны назоўнік.

***— Адкуль бяруцца прапановы для месца варштатаў „Polis"?***



*Галіна Бартноўская з сучкай Дыянай.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Гэта ідзе самацёкам. Праекты прыносяць удзельнікі, ды і самі, калі наведваем Польшчу, падбіраем цікавыя для нас месцы. Дапамагаюць таксама нам нашы сябры. Раней Андрэй Бэрэстэцкі прапанаваў нам прыехаць у Пярэмышль. У падобны спосаб выкладчык Варшаўскага універсітэта запрасіў нас на Мазуры, каб там пазнаёміцца з мазурскай супольнасцю. Мы сутыкнуліся з аўтахтонамі і з жыхарамі, што туды перасяліліся.

***— Што найбольш уразіла Вас у Старыне?***

— Цішыня. Наваколле асяродка. Тое, што гэтая зямля мае свой характар. Звычайна жыву ў горадзе, дзе нямногія маюць свае карані. Добра бываць у месцах, якія маюць свой характар. Тут сустракаем такія знакі „тутэйшасці", якія мяне захапляюць. Састаў колераў: шэра-залатыя, зялёна-сярэбраныя. Тут вельмі сімпатычныя, прыгожыя старэйшыя кабеты. Калі гаварыць пра месца лагера, уражвае сямейная гасціннасць гаспадароў асяродка. Яны ўспрымаюць нас як гасцей. Падабаецеся мне і вы, партнёры гэтай размовы. Падабаецца мне, што пашыраецца наш круг знаёмых.

***— Ці далей будзеце супрацоўнічаць з праграмай Сустрэчы „Зоркі"?***

— Маю надзею. Ганна сказала, што запросіць нашых прадстаўнікоў на варштаты „Зоркі". Будзем выкарыстоўваць наша цэнтральнае распалажэнне, каб дапамагаць „Зорцы" і адначасова сабе.

Думаю, што будзем ісці адной дарогай.

**Гутарылі Жанэта Роля і Міхась Сцепанюк**

**Анна Садоўская**

* * *

хачу плакаць
ды слёзы вязнуць у горле
думкі вывеяў вецер

брэх сабакі
чырвонае неба
холад вечара

перапалоханая радасцю
перамогшы недарэчнасць
лёсу
плачу зорным смехам

## На яўрэйскім могільніку

Надыходзіць халодны вечар. Неба насычаецца чырвона-сінімі колерамі. Хмары вісяць быццам нейкія страхапуды. Ад ракі павеяла холадам. За рэчкай чуваць клекатанне буслоў і трашчанне цвыркуноў.

На фоне белых бяроз я пабачыла помнікі-мацэвы. Тут, на яўрэйскіх, забытых могілках, пануе каменная цішыня. Прысела я на пянёчку і думала пра мінулае. Пра яўрэяў. Як жылі тут, працавалі, маліліся. Раптам ад дарогі мне паказаўся нейкі бляск, святло. У мае дзіцячыя гады прыходзілася слухаць аповеды, як яўрэі над вогнішчам пяклі свой хлеб і дабаўлялі да яго кроў дзіцяці. І мы малечы-дурнечы верылі гэтым недарэчным *байдам* і страшэнна баяліся. Наватгэтага каменнага спакою, могільніка. Праўда, былі і такія, што шукалі там золата. Рыліся па могілках рыдлёўкамі, дзёргалі па касцях памерлых.

Быў такі, расказвалі людзі, што капаў тут золата. Але сустрэла яго гора. Пакінула шчасце.

**Аня Садоўская**



*Дуб Ягайлы — легенда Белавежскай пушчы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Дуб Ягайлы — турыстычны атракцыён

Турыстычныя шляхі Белавежскай пушчы вядуць да славутага дуба Ягайлы. Пра гэтае дрэва можна пачуць дзесяткі легенд ды быліц. Адна з іх апавядае, як кароль Ягайла, тыдзень да бітвы пад Грунвальдам, тут пасілкаваўся. — Расказ прыгожы, аднак зусім неверагодны, — кажа наш экскурсавод-навуковец. — Не ладзяцца, проста, гады. Дуб жыве 300-400 гадоў, затым замірае. Паводле легенды, ужо ў часы Ягайлы гэтае дрэва было магутнае. А, папраўдзе — калі і было... дык маленькім дрэўцам, сцяблінкай.

На здымку славуты Дуб Ягайлы — сёння спарахнелы вываразень.

Усё ж турыстычны атракцыён, бо корміць яго легенда.

**ЗОРКА**

## Хворы коцік

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Міры Лукшы*

C G
У Ві-та-лі-ка ёсць ко-цік.
G C
На-ра-ка-е на жы-во-цік.
C G
Мо-жа, ўчо-ра з'еў за-мно-га,
G C
А ця-пер ля-жыць, ня-бо-га?
Ref. F
Ска-жы, кіс-ка, дзе ба-ліць?
C
Мо-жа, зё-лак за-ва-рыць?
G
Ко-цік ка-жа: „Мяў-ку-мяў!
1. G C
Каб я ве-даў, каб я знаў..."
2. G C Dm7 C
Каб я ве-даў, каб я знаў..."

У Віталіка ёсць коцік.
Наракае на жывоцік.
Можа, учора з'еў замнога,
А цяпер ляжыць, нябога?
Ref.:
Скажы, кіска, дзе баліць?
Можа, зёлак заварыць?
Коцік кажа: „Мяўку-мяў!
Каб я ведаў, каб я знаў..."

Коцік кажа: „Мяўку-мяў,
Каб я ведаў, каб я знаў,
Сам бы доктарам мог быць,
Усіх знаёмых сам лячыць!"
Ref.
Прыкладзем мазі, прымочкі,
Пару кропель капнем у вочкі...
А наш коцік усё ляжыць...
Чым жа коціка лячыць?!
Ref.

# Лянота

**Частка 4**

Спаў Алік доўга. Ніхто яго не будзіў. А калі прачнуўся ды глянуў на гадзіннік, дык аж за галаву хапіўся: цэлую лішнюю гадзіну праспаў!

Выбег Алік на кухню, бачыць — там маці сядзіць з бульбінай у руках і дрэмле.

— Ты чаму мяне не пабудзіла? — напаў на яе Алік. — Праз цябе я ў школу спазніўся!

— Я хацела цябе пабудзіць, — адказала маці. — Але такая на мяне лянота напала, што я нават устаць з табурэткі не магу. Пачала бульбу чысціць, дык яна ў мяне з рук валіцца.

— Ай-яй-яй! — замітусіўся Алік. — Будзе мне ад Ганны Іванаўны. Напішы хіба запіску, што ў мяне жывот балеў...

Алік прынёс маме кавалак паперы і аловак. Маці ўзяла паперу, але яна тут жа выпала ў яе з рук.

— Што ты — бязрукая? — са злосцю сказаў Алік.

Ён падняў паперу і зноў падаў маме. Але на гэты раз маці нават рукамі не паварушыла.

— Не магу пісаць, — прагаварыла яна лянівым голасам.

— Чаму?

— Не хочацца. Нічога не хочацца рабіць.

— А снедання ты таксама не згатавала?

— Не.

— Што ж мне есці?

— Не ведаю. Хлеба няма. Бульбы насмажыць не магу. Смаж сам, калі хочаш.

Алік за ўсё сваё жыццё не ачысціў яшчэ ніводнай бульбіны. Не ўзяў бы ён у рукі нажа і цяпер, каб не голад. Але толькі пачаў чысціць бульбу, як востры нож — шах! — і парэзаў яму палец. Алік страшэнна баяўся крыві. І ён так зароў, што маці аж вочы адплюшчыла. Паглядзела на парэзаны Алікаў палец, паківала галавой ды зноў задрамала.

— Не буду чысціць гэтай праклятай бульбы! Лепш не еўшы пайду ў школу, — раскрычаўся Алік, завязваючы бінтам палец.

Сабраўся ён і без запіскі пабег у школу.

На школьным двары нікога не было. У калідоры — таксама. Адчыніў Алік свой чацвёрты „Б" клас — і там ні жывой душы. „Відаць, урокі скончыліся, ці што? — падумаў Алік. — А дзе ж тады другая змена?"

Пахадзіў ён па пустых вуліцах і зноў вярнуўся дадому. Бачыць — маці як і раней дрэмле на табурэтцы. Бацька сядзіць у сталовай з газетай у руках, хоць відаць, што ён зусім яе не чытае, а толькі сяды-тады маргае соннымі вачамі. „Чаму бацька на работу не пайшоў? — падумаў здзіўлены Алік. — Сёння ж не выхадны".

Сумна стала Аліку. Ні есці няма чаго, ні пагуляць няма з кім. Пайшоў ён зноў у магазіны хлеба шукаць. Хадзіў, хадзіў, а яны ўсе зачынены. Трамваі і тралейбусы стаяць. Людзей і машын нідзе не відаць.

Тым часам і вечар настаў. У галаву Алікаву розныя невясёлыя думкі прыйшлі. Што сталася з бацькамі? Чаму яны не могуць нават з месца скранацца? Чаму апусцела школа? Дзе падзеліся сябры? Чаму замёр увесь горад?

І Алік так засумаваў, што аж заплакаў.

***(працяг будзе)***

**Алесь ЯКІМОВІЧ**

# Вершы Віктара Шведа

### Сама ты вінавата

Лае сынка Колю
Матуля страшэнна:
— Не думала ніколі,
Што будзеш такі дрэнны!

— Ведала б дасканала,
Што неслух будзе гэткі,
Калі б ты прачытала
Пры куплі этыкетку.

### Цябе таксама прынёс бусел?

Глянуўшы на велікана постаць
Унук з пытаннем да яго звярнуўся:
— Ці цябе, дзядуля, так папросту
Прынёс таксама ў сваёй дзюбе бусел?

— Дык, вядома, прынёс мяне змалку,
Адпачыўшы крыху па дарозе.
— Хіба што прыносіў па кавалку,
Цэлага прынесці ж не быў у змозе!

# Польска-беларуская крыжаванка № 32

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Bekas, derkacz | | ▼ | Cud / Bałt | Różki | ▼ | Prawo / Wąż | ▼ |
| Las dębowy ► | ▼ | | ▼ | | | ▼ | |
| ► | | | | Żuk ► | | | |
| Orda | | Lak ► | | | | | |
| Plotki ► | | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 28:** Мір, пляц, сцяг, ліра, енк, гном, акацыя. Сцяна, ядок, гама, плечы, клін, яркі, цацка.

# Сезон без музея



*Музей у рамонце.*

— І што тут, у Белавежы, можна зараз паглядзець? — вось, менавіта такое пытанне сёлета найчасцей ставяць турысты.

Фактычна, у самой Белавежы цяпер няма такога аб'екта, які б сур'ёзна засяроджваў увагу наведвальніка. Апошнім днём працы Прыродазнаўчага музея — галоўнага тут турыстычнага атракцыёна — была нядзеля, 21 лютага г.г. Некалькі дзён пазней экспанаты былі вывезены, галоўным чынам у Кракаўскі прыродазнаўчы музей, частка ж трапіла ў Палескі і Растачанскі нацыянальныя паркі. 15 сакавіка г.г. бельскае прадпрыемства „Унібуд" прыступіла да перабудовы музея і рэстарана „Іва" з часткай гасцініцы. Уся гасцініца будзе перададзена будаўнікам для перабудовы з пачаткам кастрычніка г.г.

Прыродазнаўчы музей за перыяд свайго існавання (ад 27.06.1972 г. да 21.02.1999 г.) прапусціў праз свае залы 2 167 658 чалавек, у тым ліку 136 366 асоб з заграніцы. Новая экспазіцыя будзе здадзена ў карыстанне не хутчэй як дзесьці на зломе 2002 і 2003 гадоў. Яна ўжо ў нічым не будзе напамінаць старой.

Каб турысты замнога не наракалі на недахоп музея, у памяшканні Асяродка прыродазнаўчай адукацыі БНП адкрылася невялічкая выстаўка, на якой паказваецца 75 штук птушак, 4 віды млекакормячых, а таксама бортныя калоды, прылады, посуд і вопратку бортніка. Трэба тут дадаць, што вітрыны з птушкамі прывезены былі аж з Кракава. Па той прычыне паказваюцца і такія віды, якіх у Белавежскай пушчы няма. Наведванне гэтай выстаўкі бясплатнае.

Папраўдзе, турысту, які сёлета загляне ў Белавежу, у асноўным астаецца наведванне толькі запаведніка зуброў, а каму па кішэні наняць экскурсавода — можна заглянуць у запаведнік прыроды. Некаторыя турысты трапяць яшчэ ў Асяродак лясной адукацыі „Ягелонскае", у якім працуюць выстаўкі — старых лясных прыладаў і фатаграфічная. На жаль, сюды абмежаваны даезд для аўтамабіляў. А трапіць у гэты асяродак можна двума шляхамі — праз Грудкі або праз Падаляны.

Турыст, які захоча падацца з Белавежы ва ўрочышча Старая Белавежа, абавязкова будзе праклінаць праезд па вуліцы Застава. У мінулым годзе праводзілі тут каналізацыю, сарвалі асфальт, а сёлета падключалі яшчэ паасобныя карыстальнікаў, так што ўся вуліца практычна непраезная. Шкада, што ніхто не падумаў, каб зрабіць аб'езд. На шчасце, тое што сталася з вуліцай Заставай, абмінула вуліцы Вольгі Габец і Крыжэ, на якіх зараз таксама праводзяць каналізацыю. Тут раскапалі толькі абочыны. Зараз папраўляецца, пасля каналізацыйных раскопак, вуліца Спартовая. Магчыма, што неўзабаве возьмуцца і за галоўную вуліцу Белавежы — ген. Аляксандра Вашкевіча.

Калі ўжо гутарка аб дарогах — на жаль, не палепшыўся даезд у запаведнік зуброў. Надалей на гэтай дарозе (адыходзячай ад шашы Гайнаўка — Белавежа) поўна калдобін.

Наогул няма праблем з літаратурай на тэму Белавежскай пушчы, хаця прыдаўся б усё ж большы выбар, асабліва на замежных мовах. На пачатку турыстычнага сезона паявіліся новыя даведнікі аб запаведніках зуброў і прыроды, а таксама даведнік па пушчы аўтарства праф. Крыстыны Фалінскай. Выйшла і новая серыя паштовак Эрнеста Дзевы.

Няма праблемаў і з наняццем экскурсавода, у тым ліку і валодаючага замежнымі мовамі — перш-наперш англійскай і нямецкай. У мінулым годзе ў Белавежы паявілася новае турыстычнае бюро „Kampio" Пётра Камінскага з Прушкова. У сваю чаргу спыніла дзейнасць бюро „Natur" Тадэуша Пшыгодзкага. А бюро „Setec-Tour" надалей дае ў карыстанне за 30 зл. у гадзіну акумулятарныя павозкі.

Харчаванне запэўніваюць рэстараны „Іва" (зараз у абмежаванай ступені, ды ў часовым памяшканні), „Зуброўка" (перанята нядаўна беластоцкай гасцініцай „Cristal"), бар-бістро ў гасцініцы ПТТК і пансіён „Unikat". На жаль, у „Зуброўцы", у сувязі з павышэннем катэгорыі (тры зоркі), рэзка павысілі цэны.

Нягледзячы на тое, што атракцыйнасць Белавежы крыху панізілася, наведвальнікаў не паменшала. Ва уік-энды прыязджае іх сюды нават каля 2 тысяч у дзень.

**Пётр БАЙКО**
*Фота аўтара*

# Бібліятэка ў музеі

Бібліятэка пры Беларускім музеі ў Гайнаўцы адчыніла свае дзверы для чытачоў у сакавіку 1998 года. Аднак ужо ад 9 снежня 1997 года Наталля Герасімюк, бібліятэкарка, пачала наводзіць парадкі ў бібліятэцы. Кніжак назбіралася нямала. Якраз на Беларусі, расказвае Наталля, ліквідавалі беларускамоўныя бібліятэкі і з гарадскіх і вясковых бібліятэк Беларусі паплылі кніжкі ў Гайнаўскі музей. Таксама кніжкі з бібліятэкі БГКТ і выданні „Нівы" ўзбагацілі бібліятэку музея.

Бібліятэка пры музеі змяшчаецца ў адным пакоі. Наталля Герасімюк на першых парах знаёмілася з кніжкамі, парадкавала ўсё, раскладала па аддзелах у шафы. Памяшканне бібліятэкі цяпер гэта адначасова чытальная зала, ну, а таксама, выконвае ролю і канферэнцыйнай залы.

Паліц тут няма, усе кніжкі пахаваны ў шафах, на якіх стаяць партрэты беларускіх пісьменнікаў. У даны момант у бібліятэцы знаходзіцца 5 000 экземпляраў, а чытачоў за гэты год назбіралася дзвесце асоб.

Вучні ліцэя бяруць метадычную літаратуру. Настаўнікі карыстаюцца яшчэ і этнаграфічнай літаратурай, і рознымі слоўнікамі — паэтычнымі, лінгвістычнымі, антонімаў, сінонімаў, іншамоўных слоў ды энцыклапедыямі. Пенсіянеры, старэйшыя людзі больш чытаюць мастацкую і рэлігійную літаратуру — жыція святых, паясненні да Бібліі, акафісты і г.д.

Бібліятэка Беларускага музея ў Гайнаўцы адчынена ў панядзелкі, серады, суботы ад 10 да 18 гадзіны. Бібліятэкарка Наталля Герасімюк па адукацыі — педагог, закончыла Брэсцкі педагагічны інстытут. Умее яна параіць школьнікам нават як і напісаць сачыненне. Сярод матурыстаў самым папулярным аўтарам штогод з'яўляецца Васіль Старычонак, аўтар кніг „Ах, сачыненні, сачыненні...", „100 сачыненняў па беларускай літаратуры", „Беларуская літаратура для абітурыентаў", „Беларуская літаратура ад А да Я".

Кніжкі ў нас не толькі беларускія, але і пераклады з беларускай на польскую мову, расказвае Наталля Герасімюк. Наогул збіраем усё тое, што датычыцца беларусаў і Беларусі, дзе б яны не жылі: на Беларусі, у Польшчы ці ў Амерыцы, Канадзе. Ёсць Арсеннева, Сяднёў, Акула, д-р Ян Станкевіч. Газеты, вядома, беларускія, якія выдаваліся за граніцай ад 1942 года, прысланыя з Аўстраліі. Мікола Прускі прысылае з Амерыкі „Беларускі дайджэст".

На Беларусі мы закупляем усе навінкі беларускай літаратуры, выпісваем адтуль часопісы, газеты.

Раз у месяц у бібліятэцы адбываюцца канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы, паведамляе нам Наталля Герасімюк. Бываюць таксама сустрэчы з ліцэістамі, я знаёмлю іх з бібліятэкай, з беларускай літаратурай, стараюся паказаць яе прывабнасць, заахвоціць вучняў да вывучэння яе.

Таксама (адзін раз у год) праводзіцца тут літаратурны семінар „Бязмежжа".

Апрача кнігазбораў у бібліятэцы збіраецца фанатэка і відэатэка. Усе пласцінкі, касеты, відэакасеты датычаць жыцця беларусаў на Беласточчыне, дзейнасці БГКТ, Беларускага музея, фестываляў беларускай песні і наогул мастацкай дзейнасці калектываў.

У апошні час зборы бібліятэкі значна ўзбагаціліся. У сакавіку гэтага года Лідзія Гайдук перадала Беларускаму музею архіў Міколы Гайдука з кніжкамі, рукапісамі і лістамі. Лідзія Гайдук хацела, каб усе зборы, рукапісы і г.д. былі захаваны ў адным месцы, каб людзі як мага паўней маглі запазнацца з зацікаўленнямі і творчасцю Міколы Гайдука.

Гэта вялікі дар Беларускаму музею, сказала Наталля Герасімюк.

**Ада ЧАЧУГА**

# Польска-ўкраінская сустрэча

Шматлікая публіка, шмат калектываў, разнароднасць рэпертуару, высокі ўзровень выканання, цудоўнае надвор'е паўплывала на тое, што „Першыя польска-ўкраінскія музычныя сустрэчы", якія 24 і 25 ліпеня праходзілі ў Чаромсе лічу ўдалымі.

Арганізатарамі мерапрыемства сталі мясцовы гурток Саюза украінцаў Падляшша і Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і мастацтва, гмінных упраў ў Чаромсе і Нарве ды шматлікіх спонсараў.

Для чарамшукоў субота 24 ліпеня сталася сапраўдным святам з прычыны канцэрта, які пачаўся некалькі мінут пасля 17-ай гадзіны і працягваўся да дзесятай ночы.

Першымі выступілі жанчыны з Чаромхі-вёскі, затым месца на сцэне занялі госці з-за мяжы. „Галицькі забави" — калектыў з Івана-Франкоўска, паспяхова выступіў з даволі багатым і разнародным рэпертуарам. Гітам праграмы было выступленне фальклорнага калектыва „Горына" з Роўна, які двойчы выступіў на канцэрце. Трэці калектыў з Украіны — камерны хор „Хрэшчатык" з Кіева — прывітаў публіку славутай песняй „Раве ды стогне Днепр шырокі". У далейшай частцы суботняга канцэрта выступілі: „Родына" з Дубяжына, „Ранок" з Бельска-Падляшскага, „Млодзяновяцы" з Янава-Люблінскага і беластоцкі саліст Збігнеў Насядка.

Канцэрт завяршыўся народнымі танцамі. Пад гукі „Галицьких забаваў" і „Горыны" аматары танца гулялі да раніцы. Незвычайным атракцыёнам сталі феерверкі, якія прыйшлося мне з увагі на позні час аглядаць ўжо са свайго панадворка.

У нядзелю, на другі дзень „Сустрэч", выступілі жанчыны з Вулькі-Тэрахоўскай, вядомая ўжо „Горына", „The Bumpers" з Беластока, мясцовая „Чарамшына" і „Хутір" з Гданьска.

Мерапрыемства прайшло паспяхова, дзякуючы самаахвярнасці арганізатараў мерапрыемства, асабліва Славаміра Саўчука і Тамары Кердалевіч.

**Уладзімір СІДАРУК**

# 50 гадоў супольнага жыцця

Сустрэчы шлюбных пар, якія адзначаюць 50-годдзе супольнага жыцця, у Чыжах сталі ўжо традыцыяй. Некалькі гадоў запар адбываюцца яны ў памяшканні ЗАГСа і розных мясцовасцях гміны. 12 ліпеня г.г. у чыжоўскім ЗАГСе залаты юбілей святкавала 14 пар. На ўрачыстасць прыбылі: з Курашава: Марыя і Ян Сцепанюк, Ніна і Рыгор Дзмітрук, Агата і Рыгор Артэмюк, Марыя і Мікалай Філіпюк; з Кленік: Марыя і Аляксей Ляўчук, Марыя і Васіль Парфянюк; са Збуча: Анастасія і Уладзімір Лукашук, Кацярына і Ян Раманюк, Зінаіда і Ян Карнілюк; з Шастакова: Ніна і Васіль Мароз ды Анна і Уладзімір Мароз, з Чыжоў — Ніна і Пётр Петручук, а з Лянева — Ніна і Лявон Чыкер.

Спачатку юбіляры ўдзельнічалі ў малебне, які з гэтай нагоды адслужылі настаяцель прыхода а. Ян Раманчук і вікарны а. Ян Сцепанюк. З царквы ўсе падаліся ў ЗАГС, дзе дастойных гасцей павіншавалі войт Рыгор Мацкевіч і загадчык ЗАГСа Станіслава Янцэвіч. Затым юбіляры былі ўзнагароджаны медалямі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё", прысвоеным ім прэзідэнтам РП. Дыпломамі юбіляраў узнагародзіў таксама мясцовы прыход. Працаўнікі гміннай адміністрацыі і члены сем'яў абдорылі юбіляраў букетамі кветак і пажадалі шчасця ды многіх гадоў жыцця. Юбіляры ўзнагароды, кветкі і віншаванні ўспрымалі з вялікім радасным хваляваннем, а калі прагучаў вясельны марш, у вачах многіх паказаліся слёзы. **(Ея '58)**

# Марк Шагал чарговы раз праляцеў над Віцебскам


Злева: унучка Шагала Мерэт Майер Трабер і дырэктар музея Людміла Хмяльніцкая.

**(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)**

Шагалаўскія дні сталі ўжо традыцыяй. У гэтым годзе былі яны выключнымі. У музеі М. Шагала адбылася вельмі цікавая выстаўка „Марк Шагал і яўрэйская культура". Цікавасць яе заключаецца ў тым, што сабраны на ёй арыгінальныя працы (афорты, літаграфіі, рысункі) М. Шагала, якія музею падарылі ўнучкі мастака, Мерэт Майер Грабер і Бэла Майер, 96 афортаў — ілюстрацыі да паэмы М. Гогаля „Мёртвыя душы" і 24 каляровыя літаграфіі да Бібліі. Ілюстрацыі да Бібліі і да кнігі М. Орляна „Мацярынства" падарыў Генрых Мендэль, лекар з нямецкага горада Ірэль. Прывёз ён таксама з сабой сямейную памятку, ілюстрацыю „Бабушка" да аўтабіяграфіі „Моя жизнь", якая ў спадарства Мендэляў знаходзілася з 1922 г. Цяпер ён вырашыў падарыць „Бабушку" Віцебску.

Куратарам музея М. Шагала ў Віцебску з'яўляецца Гюнтэр Коматскі, уласнік галерэі ў Майлене ў Швейцарыі. Ягоную галерэю састаўляюць перад усім карціны М. Шагала. Віцебскаму музею таксама падарыў ён шмат графік, дапамагаў у афармленні выставы: са Швейцарыі прывёз паспарту для карцін, прывучыў супрацоўнікаў музея іх афармляць. Рамкі заказалі ў віцебскіх майстроў. Сярод падарункаў яшчэ былі працы М. Шагала, падораныя Фларыянам Каршам з Берліна (5 літаграфій да Бібліі), нямецкай фірмай Бухольц Пыротг з Гамбурга і Кругам дапамогі музею Шагала ў Віцебску з Нінбурга ў Нямеччыне. Такім чынам музей М. Шагала ў Віцебску валодае самай багатай калекцыяй карцін мастака (каля 250 прац). Назвалі іх „царскімі падаркамі". Зразумела, усё гэта было магчымае дзякуючы намаганням дырэктара музея М. Шагала Людміле Хмяльніцкай і яе папярэднікам. Давер да яе і да Віцебска аказалі не толькі ўнучкі М. Шагала, але і іншыя ахвяравальнікі. Зараз Віцебску ёсць сапраўды чым ганарыцца. Год таму быў адкрыты дом-музей М. Шагала па вул. Пакроўскай. Знаходзяцца ў ім прадметы, якія зусім праўдападобна некалі былі ў гэтым доме.

Падчас сёлетніх Міжнародных Шагалаўскіх дзён у Віцебску (5-7 ліпеня) традыцыйна ўжо праходзілі навуковыя чытанні, якія паглыбілі даследаванні над жыццём і творчасцю М. Шагала. Сярод даследчыкаў былі галоўным чынам мастацтвазнаўцы з Масквы (А. Шатскіх, Наталля Апчынская), Лондана (Моніка Бохм-Дучэн, Гай дэ Пікарда), Франкфурта (Ільля Заураў), Парыжа (Клер ла Фоэль). Гэты дастойны круг замежных даследчыкаў пашыраны быў віцебскімі і мінскімі вучонымі: Людмілай Вакар, Інай Холадавай, Валянцінай Кірылавай, Юліяй Сцепанец, Эмануілам Іофе, Захарам Шыбекам. Падсумоўваючы ўсе выступленні, дырэктар музея Марка Шагала Л. Хмяльніцкая прадставіла планы рэканструкцыі даваеннага наваколля дома па вул. Пакроўскай. Яе мара — вярнуць даваенны выгляд вуліцы і атмасферу яўрэйскага квартала.

У праграме Шагалаўскіх дзён было свята на Пакроўскай вуліцы, якое пачалося ад складання кветак да помніка М. Шагалу. Побач з домам М. Шагала адбываўся дзіцячы пленэр, а на панадворку дома — літаратурна-музычныя сустрэчы „У гасцях у Марка і Бэлы". Выступалі „Віцебскія дзяўчаты" з яўрэйскімі танцамі і спевамі. Побач, у нядаўна пабудаваным драўляным доме, можна было паглядзець археалагічную выставу прадметаў, якія паходзяць з раскопак 1998 г., праведзеных на панадворку дома М. Шагала.

Найбольш актыўнай асобай падчас Шагалаўскіх дзён быў старшыня Шагалаўскага камітэта, паэт Давід Сімановіч, які пры кожнай нагодзе чытаў свае вершы са зборніка „Имею честь принадлежать", прысвечаныя М. Шагалу, Віцебску і яўрэйскаму народу.

У музеі мастацтва, які існуе з 1992 г. (раней мясціўся там партыйны камітэт) да Шагалаўскіх дзён была падрыхтавана выстаўка прац Юдэля Пэна. Арганізатары зрабілі таксама экскурсію на магілу настаўніка М. Шагала на Старасямёнаўскіх могілках. Дарэчы, магілы там няма — на яе месцы знаходзіцца бюст мастака. Каму хапіла часу, мог яшчэ наведаць Цэнтр сучаснага мастацтва, якім кіруе Валянціна Кірылава.

Падчас Шагалаўскіх дзён адбылася таксама прэсавая канферэнцыя з удзелам запрошаных гасцей. Была гэта, здаецца, непаўторная нагода сустрэцца з унучкай М. Шагала Мерэт Майер Грабер, якая пражывае ў Берне ў Швейцарыі і распараджаецца дзедавай спадчынай.

Здавалася, што дух Шагала сапраўды ўзлятаў над Віцебскам і акрыляў прысутных. Каб спазнаць атмасферу Шагалаўскіх дзён, трэба прыехаць у Віцебск і так, як героі карцін мастака, палятаць над гарадам і ўпэўніцца, што ні Славянскі базар, ні святкаванне 3 ліпеня не раўня міжнародным Шагалаўскім дням.

Сумна становіцца з-за таго толькі, што Віцебск стварае ўражанне рускамоўнага горада, бо Шагалаўскія дні — рускамоўныя.

Тры дні ў выступленнях поўнасцю дамінавала руская мова. Выступленні на англійскай і нямецкай мовах перакладаліся таксама на рускую. Дайшло нават да таго, што адзін з замежных выступоўцаў сказаў: „Я счастлив, что я снова в России". Публічна на беларускай мове адважыўся выступіць паэт Анатоль Канапелька і Людміла Хмяльніцкая — на адкрыцці выстаўкі „Марк Шагал і яўрэйская культура". У прыватных размовах аказалася, што многія валодаюць беларускай мовай. Чаму ж тады ўжываюць рускую, хаця за вяртанне М. Шагала змагалася таксама беларуская інтэлігенцыя, а здзейснілася яно ў незалежнай Беларусі. Нават вершы М. Шагала былі перакладзены з ідыш на беларускую мову, напрыклад, як гэты, у перакладзе Р. Барадуліна:

Мой горад, мяне не забыў ты яшчэ?  
Рака твая ў целе маім цячэ.  
На лаўках тваіх я праседжваў  
да рання.  
І ўпарта чакаў я, наіўны, прызнання.  
Дзе хаты стаяць, зажурыўшыся, дзе  
на могільнік проста дарога вядзе,  
дзе рэчка вясной не шкадуе абшараў  
я ўсе свае дні летуценна прамарыў.  
Маланкаваю белізною ўначы  
усе дахі анёл заліваў, летучы.  
Анёл мне паказвае шлях мой далёкі,  
імя маё ўзносіць вышэй за аблокі.

**Лена Глагоўская**  
*Фота аўтара*


Выступаюць „Віцебскія дзяўчаты".

# Беспрацоўе ў Гайнаўцы

Колькасць беспрацоўных у Гайнаўцы рэзка пабольшылася ў пачатку 1999 года. У маі г.г. у Павятовым ведамстве па працаўладкаванні стаялі на ўліку 1402 асобы, якія шукалі працу, калі ў маі 1998 года без працы было 1139 асоб. Ва ўсім Гайнаўскім павеце лік беспрацоўных пабольшаў з 2275 (май '98) на 2606 асоб (май '99 г.).

— Лік беспрацоўных рэзка павысіўся, бо з 1 студзеня 1999 года абавязваюць новыя правілы сацыяльнай страхоўкі і з-за гэтага многія рэгіструюцца, хаця і не разлічваюць на ніякую фінансавую дапамогу па беспрацоўі. У студзені і лютым рэгістравалася прыблізна на 60% больш асоб чым у аналагічных месяцах мінулага года, — кажа кіраўнік Павятовага ведамства па працаўладкаванні Ірэна Врублеўская. — У ліку беспрацоўных ва ўзросце ад 18 да 44 гадоў, калі рана яшчэ думаць пра пенсію, было ажно 1124 асобы (май '99 год), а старэйшых толькі 278 чалавек. Найчасцей працу шукаюць асобы з падставовай — 453 асобы (32%) з прафесійнай — 434 асобы (31%) і сярэдняй адукацыяй — 473 асобы (34%), а з вышэйшай толькі 49 асоб (3%).

У ліку беспрацоўных 440 асоб яшчэ ўвогуле не працавала, 689 застаюцца без працы ад трох месяцаў да года, 200 асоб шукае працу больш чым два гады. Сярод беспрацоўных жыхароў Гайнаўкі толькі 15% атрымлівае грашовую дапамогу, а ажно ў 1193 асоб такіх правоў ужо няма і за фінансавай падтрымкай звяртаюцца яны ў Гарадскі асяродак грамадскай дапамогі.

— Праца Павятовага ведамства па працаўладкаванні гэта не толькі рэгістрацыя беспрацоўных, але дапамога ў пошуках працы, арганізацыя курсаў дзеля падрыхтоўкі спецыялістаў, патрэбных нашаму рынку. Памагаем таксама работадаўцам знайсці спецыялістаў розных прафесій, — працягвае Ірэна Врублеўская. — Каб стварыць новыя месцы працы работадаўцам прапануем субсідыі на поўныя або частковыя зарплаты для працаўнікоў. Самым вялікім зацікаўленнем карыстаюцца інтэрвенцыйныя і публічныя работы, якія фінансуюцца намі. Цешыць нас, што большая колькасць асоб знаходзіць працу без ніякіх субсідыяў. Людзі могуць прыходзіць да нас за індывідуальнымі парадамі. Дапамагаем тым групам людзей, якім пагражае ўвальненне. Зараз рэалізуем тры спецыяльныя праграмы з мэтай прыцягнення беспрацоўных да актыўных пошукаў работы. Крыху мужчын знойдзе працу ў Павятовай управе публічных дарог, якая нядаўна купіла машыну для вытворчасці тратуарных плітак. Зараз ажыццяўляецца праграма „Выпускнік '99", якая дапаможа маладым людзям паставіць першыя крокі на рынку працы. У бягучым годзе на актыўную працу па ліквідацыі беспрацоўя атрымаем 1 мільён 270 тысяч злотых. У Гайнаўскім павеце беспрацоўе крыху ніжэйшае (9,5%), чым у сярэднім у Падляшскім ваяводстве (12,2%).

У 1998 годзе ў Гайнаўцы жыло больш чым 24 тысячы асоб, у тым ліку было больш чым 14 тысяч працаздольных жыхароў. За гэты ж год памерла ў горадзе 146 асоб, а нарадзілася 321, што з'яўляецца аптымістычным паказчыкам на будучыню, які павінен актывізаваць улады горада да дзейнасці ў галіне стварэння новых месц працы.

**Аляксей Мароз**

# Не ведаў, куды рукі палажыць

**Пра мінулае расказвае 75-гадовы жыхар Барысаўкі Гайнаўскай гміны Барыс СЕКАНОЎСКІ.**

Закончыў я чатыры класы пачатковай школы. Школа была ў нашай вёсцы, у маім класе вучыліся дваццаць вучняў з Барысаўкі, Васількова і Гарадзіска. Вучыліся мы ў адной зале школьнага будынка пабудаванага яшчэ пры цары, бо большую часць будынка займала настаўнікава сям'я. З 7-й да 11-й гадзіны вучыліся вучні трэцяга і чацвёртага класаў, а з 12-й да 16-й — першага і другога. У зале стаялі два рады партаў: у адным радзе быў адзін клас, а ў другім — другі. У кожнай парце сядзелі па тры вучні. Раней вучні пісалі грыфелем па дошчачках, а калі вучыўся я, мы ўжо мелі сшыткі. Спярша пісалі ў *кратковых*, а калі хто ўжо пісаў прыгажэй, той мог мець сшытак і ў лінейку. *Першазімцы* пісалі алоўкам, а старэйшыя — ручкай. На парце стаяла чарніліца, у якую чарніла наліваў сам настаўнік. Настаўнічаў у нас Станіслаў Казлоўскі, а калі ён недзе выязджаў, яго заступала ягоная жонка. Навучаў ён нас польскай мове, арыфметыцы, гісторыі і геаграфіі. Вучыліся мы таксама рэлігіі, якую навучаць прыязджаў настаяцель з Ласінкі па прозвішчу Багдановіч.

Вучыцца трэба было да чатырнаццаці гадоў. У Барысаўцы былі чатыры класы і закончыўшы іх можна было ісці ў Ласінку — там былі сем класаў. З майго класа ў Ласінку пайшлі толькі тры вучні, а апошнія да сканчэння чатырнаццаці гадоў хадзілі далей у чацвёрты клас. За навуку ў пачатковай школе не трэба было плаціць, часам толькі сабіралі нейкія грошы на пабудову школ. Далейшая навука была платная і таму ў міжваенны перыяд ніхто з нашай вёскі далей не вучыўся, бо бацькі не мелі на гэта сродкаў. Толькі пасля вайны сталі ездзіць у *завадоўку* ў Гайнаўку, а хто туды не дастаўся, той ішоў тэрмінаваць да Мяжвінскага. Мяжвінскі гаварыў: *Jak u mnie się pouczysz, to wszędzie będziesz robił*. І ў яго навука распачыналася ад распальвання гарна, а да станка быў доўгі шлях. А ў *завадоўцы*, бывала, скончыць хлапец сталярства, а яго бацька заказвае вокны ў столяра, бо сын не ўмее...

У 1938 годзе перастаў я хадзіць у школу і навесну цэлы месяц працаваў пры насадцы, пазней памагаў бацьку на гаспадарцы. Было ў мяне яшчэ траіх братоў і ўся наша сям'я налічвала разам шэсць душ. У 1939 годзе, калі выбухла вайна, немцы дайшлі да Гарадзіска, там іхнія дзве гарматы ўстрэглі, то яны іх бельгійскімі коньмі выцягалі; палякі адступілі перад імі; адзін атрад на Ліпіны, а другі на Масева. Немцы з Гарадзіска далей не пайшлі, вярнуліся, бо задалёка зайшлі за дагаворану з саветамі граніцу. Пашваргіталі яны, запраглі коней і паехалі на Ласінку назад.

Саветаў ніхто не сустракаў; да вайны ў Барысаўцы не было камуністычнай ячэйкі. Людзі бульбу капалі, аж бачаць: якоесь войска едзе, самаход за самаходам, пяхота, пасля артылерыя з коннай цягай. Сельсавет размясцілі не ў Ласінцы, а ў Крыніцы; старшынёю быў Сяргей Мінько з Гарадзіска (пасля немцы з маёнтку ў Ляўкове забілі яго каля Бярначчыны). Саветы намаўлялі ў калгасы, але людзям спешна не было. На сходзе адзін з гаспадароў сказаў агітатару: *Дзе б вароне не лятаць, усё раўно гаўно кляваць*, пасля, аднак, усю ціха сядзеў. З нашай вёскі саветы вывезлі аднаго толькі гаёвага, які быў палякам.

У 1941 годзе немцы наступалі фронтам, *тыральерай*, саветы ўцякалі гасцінцам. Каля Галяковай Шыі стральба была, рускія нямецкую гармату разбілі, а сваю зачапілі і ўцяклі. Да абеду адна часць немцаў дайшла да Каралюкоў і ў Крыніцы начавала. Па абедзе прыйшлі немцы ад Рэпіск і ў нас заначавалі: частка вартавала ў акопах, а апошнія начавалі ў хатах. На досвітку немцы паўставалі, прыехала кухня, паснедалі і пайшлі на Нараўку; рускіх ужо не было.

Немцы арганізавалі гміну ў Нарве, там камісар быў. 10 верасня 1941 года забралі мяне ў Германію; солтыс вызначаў з тых хатаў, у якіх было па двух сыноў. Я паехаў заміж старэйшага брата, бо быў большы ростам; пасля паўтара года забралі і яго. Пасля яўкі ў Нарву завезлі нас фурманкамі ў Беласток, там зрабілі медыцынскі агляд з прасвятленнем; аднаго з Гарадзіска не прынялі, бо нешта ў лёгкіх пабачылі. У Беластоку трымалі нас два дні, начавалі ў жыдоўскіх хатах, а рана ў Чырвоны касцёл загналі — там цэлы дзень сядзелі, адзін нават адтуль уцёк, — з касцёла пераграналі нас у школу каля станцыі і адтуль у поезд.

Завезлі нас у Зольдаў (Дзялдова), капаць бульбу ў маёнтку. Мы, шэсцьдзесят чалавек, капалі матычкамі, а дваццаць французаў капалі капачкамі. Пасля нас перавезлі ў Мальбарк да цукровых буракоў, якія выворвалі спецыяльнымі плугамі. Мы абівалі іх і ў капцы збіралі, пасля ў адвалы і на канец у цукроўню вазілі. З адвалаў замерзлыя буракі выбівалі кіркамі, ад марозу рукі трэскалі: пачнеш біць — юха ідзе, але пасля не чулі болю.

У студзені перавезлі нас у *арбайтсамт* у Ольштын і там па нас гаспадары прыходзілі. Мяне ніхто не хацеў браць, бо я яшчэ араць не ўмеў і калі ўжо я адзін астаўся, забраў мяне немец, у якога ўжо быў адзін хлапец з Барысаўкі, сваему суседу. Тры гады я быў у свайго гаспадара: араў, баранаваў, вазіў. Спярша елі разам з гаспадарамі ў пакоі, але пасля прыйшоў загад каб аддзельна, то я з яшчэ адной дзеўкай з Млавы сталі есці ў кухні. Гаспадар быў сярэдне добры, аднак было ў яго цяжка працаваць на пяцідзесяці гектарах. Бывала, як лягу спаць, то не ведаю, куды рукі палажыць, так балелі.

У другога немца быў Сярожа з Поразава і немец яго біў, то той Сярожа ўцёк ад яго і ўжо да канца вайны немец нікога не атрымаў, бо сказалі яму, што калі не ўмее абыходзіцца з работнікамі, дык больш не дадуць. Да Сярожы быў у таго немца паляк, які ўцёк да другога гаспадара і ў яго працаваў. І калі першы гаспадар прыехаў забраць яго назад, хлапец сказаў, што ўсё роўна ад яго ўцячэ; і тады той узяў Сярожу.

Калі наступалі саветы, прыйшоў загад выязджаць, але рускія былі ўжо за восем кіламетраў. Ноч ехалі а на другі дзень саветы занялі ўжо Ольштын. Нямецкія самаходы на бакавых дарогах стаялі, вадзіцелі пыталіся куды ехаць. А куды хочаце, адказалі ім. Я апынуўся ў маёнтачку, дзе было дваіх з *фольксштурму*. Яны памаглі мне ўладкавацца, а я кажу ім каб пераапрануліся ў цывільнае, бо невядома што можа здарыцца; яны пераапрануліся і пайшлі. Пераначаваў я, а рана бачу ненямецкія самаходы; давай я вяртацца назад у „свой" маёнтак. Сустрэў тых дваіх немцаў, якія варталіся дадому у Альштынак.

У маёнтак гаспадар вярнуўся раней мяне. Былі ўжо там і рускія і за мяне: што за адзін?

— Беларус, — кажу, — з Беластока, дадому хачу.

— Мы знаем, где ваш дом — в Берлине!

Адзін з Палесся кажа мне: кажы што паляк, бо да беларусаў чапляюцца. То я пачаў называць сябе палякам. Страшна было, бо там білі не пытаючы за што. Палякі гаварылі: *Czym więcej zabić, tym pewniejsze będzie zwycięstwo*.

Ад гаспадара пяшком дайшоў я да Астралэнкі, а адтуль на *тэндрах* прыехаў у Лапы. У Лапах пераначаваў у сенцах вагона, а рана на парожняй платформе прыехаў у Беласток. А з Беластока *прыкамашаваў* дахаты; быў канец лютага 1945 года.

Трыццаць гадоў пазней наведаў я тую мясцовасць, у якой правёў ваенныя гады. Заехаў у Ольштын і далей не ведаю куды ехаць. Вёска, у якой я калісь быў, называлася *Plowzen*, а па вайне ж назвы памяняліся. Гляджу на расклад аўтобусаў і бачу, што ездзяць яны ў мясцовасць *Pluszki*. Паехаў я ў Плюшкі, знайшоў там свайго гаспадара, а ён, пакуль я не прызнаўся, не пазнаў мяне. Паелі, выпілі, пагутарылі. У вёсцы яшчэ жылі амаль усе яе карэнныя жыхары, аднак пазней многія выехалі ў Германію.

Пасля вайны рабіў я на гаспадарцы, часова працаваў пры нагрузцы на калейцы, крыху ў Беластоку, а з 1973 года аж да адыходу на пенсію рабіў *стальм* рабочым на *торах* у Гнільцы; цяпер жыву адзінока, на здароўе не наракаю. Бо чалавек як дрэва: адно маладым усохне, а другое пазней.

**Запісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Медаль смерці

**Пра бежанства, санацыю і вайну расказвае Мікіта КАЧАН — 86-гадовы жыхар Кашалёў, ветэран вайны, былы салдат Войска Польскага і Чырвонай Арміі.**



*Мікіта Качан, сярод ваенных узнагарод, у ліку якіх ёсць Медаль Жукава (1997), захоўвае таксама свой „медаль смерці".*

Майго бацьку Міхала забралі на фронт у пачатку першай сусветнай вайны. У бежанства ў 1915 годзе падаліся маці Пелагея, бабуля Луцыя, бацькаў брат Аляксандр і ягоная сястра ды мае браты: 8-гадовы Вася, 4-гадовы Ігнат і я — двухгадовы малеча. З Кашалёў у Баранавічы даехалі мы на фурманцы. Там усё мы пакінулі і пераселіся на цягнік.

Пасялілі нас у вёсцы Альшанка Саратаўскай губерні. Неўзабаве памерла бабуля. Маці атрымоўвала невялікія грошы за тое, што бацька быў на фронце і наймалася на працу ў людзей. Зямля там была ўраджайная, а людзі — багатыя, трымалі многа коней, авечак, кароў. Зімою, калі маразы даходзілі да 40°C, жывёлу ўводзілі ў хату. Мы, бежанцы, спалі над авечкамі.

У хаце была печка, на якой кожны дзень выпякалі бліны, а ў нядзелю — блінчыкі. Калі ішлі мы ў царкву, нам не давалі есці і мы, дзецюкі, з нецярплівасцю чакалі канца багаслужбы, каб наесціся.

У нашай губерні голаду не было. Перад ад'ездам на радзіму купілі мы ў чалавека з Разанскай губерні каня і воз за паўцэнтнера мукі. Выехалі мы вясною і прыехалі восенню 1921 г. Некалькі тысяч кіламетраў, аж да Стаўбцоў, ехалі мы адным канём. Па дарозе трэба было шукаць адпаведнае месца на прывал, каб конь мог напасціся. На возе везлі мы бочку з рэдкім маслам для змазкі драўляных колаў. У Стоўбцах палякі пагрузілі нас і нашу маёмасць у таварны вагон і адправілі на захад.

У амаль поўнасцю спаленых Кашалях чакаў нас бацька. На яўрэйскіх агародах накапалі мы трохі бульбы. На зіму спыніліся мы ў Валасовіча. Навесну здох наш конь. У маці захавалася некалькі залатых рублёвак, за якія купілі старую гнілую хату. На месцы, дзе стаяла папярэдняя хата, вырасла ўжо бярэзіна. Новы дом паставілі ўжо брат каля 1935 года.

Было ў нас паўучастка зямлі (каля 6 гектараў), якую апрацоўвалі драўлянымі прыладамі. Я пасвіў свіней, а ў свабодны час хадзіў у школу — закончыў 4 класы. Памятаю, што часта елі праснакі з рэдзькі.

У 1935-1937 гг. служыў я ў войску — у сапёрнай часці ў Брэсце, а ў 1938 годзе мяне як салдата запасу прызвалі на месячнае абучэнне ды трымалі аж восем месяцаў на Заользі. 15 сакавіка 1939 г. быў я мабілізаваны і працаваў пры будове бамбасховішчаў за Млавай. 27 верасня баранілі мы яшчэ Варшаву. Тады я быў ранены ў нагу. Немцы ўзялі нас у палон, а месяц пазней перадалі ў Брэсце саветам. Адбывалася гэта так, што немец выклікаў жаўнераў па прозвішчы, а савецкія пагранічнікі прымалі іх. Потым далі нам хлеб і адпусцілі дамоў. Падчас мабілізацыі ў Бельску далі мне на шыю г.зв. „медаль смерці", паводле якога паўшаму на полі бою салдату ўстанаўлівалі персаналіі. На ім было напісана: „Nr 1351, Nikita Kaczan, prawosławny, 1912 r.". Гэты медаль разам з іншымі вайсковымі ўзнагародамі захоўваю па сённяшні дзень.

У 1940 г. саветы прызвалі мяне на ваеннае падафіцэрскае абучэнне ў Страблю. Калі ў 1941 г. успыхнула германска-савецкая вайна, я пад Замбравам папаў у палон. Трымалі нас у лагеры пад Гамбургам. Спачатку было ў ім 25 тысяч савецкіх салдат, а пасля года засталося толькі 12 тысяч. Зняволеныя найчасцей паміралі да голаду. На чыгуначнай станцыі, дзе нас ганялі на работу, пазнаёміўся я з машыністам, чэхам па нацыянальнасці, які ведаў польскую мову. Ён дапамог мне ўцячы — схаваў пад попельнікам лакаматыва і вывез далей ад лагера. На волі сустрэў я савецкіх салдат, якія мяне накармілі і прызначылі ў 6 запасны сапёрны батальён.

Наша часць пайшла ў напрамку Аўстрыі. Для нас вайна закончылася ў Вене. Адтуль пераехалі мы ў Брэст, але вярнуцца дадому, у Польшчу, мне не дазвалялі. Я падаўся механікам і мне накіравалі на работу, за якую плацілі 600 рублёў у месяц. Трымалі мяне ў Саюзе амаль год, а пасля выклікалі ў НКУС і кажуць: „Ну, Качан, уезжай куда хочешь в Россию", а я адказваю, што мне спачатку трэба вярнуцца на радзіму прадаць сваю маёмасць. Тады старшы лейтэнант выняў пісталет, грукнуў ім аб стол і кажа: „Ты, Качан, враг, блядь!". Я выцягнуў свае дакументы і стаў даказваць ды прасіць, што мне трэба вярнуцца ў Польшчу. Адпусцілі 15 сакавіка 1946 г.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

# Радасць без алкаголю




У Бельску-Падляшскім кожны дзень 3-4 асобы, пакутуючыя ад алкагольных праблемаў, заходзяць за парадай у кансультацыйны пункт, якім кіруе Анеля Лучай — упаўнаважаная Гарадской управы па вырашэнні алкагольных праблемаў. Прыходзяць да яе не толькі мужчыны. Кожную дзесятую заяву на лячэнне ад алкагольнай хваробы падаюць жанчыны. Часта даводзіцца падказваць наведвальнікам як ім вырашыць тыя ці іншыя справы або дапамагчы напісаць прашэнне. У кансультацыйны пункт, які размяшчаецца ў Гарадской управе, заходзяць таксама жыхары навакольных гмін і, хаця яны фармальна знаходзяцца па-за тэрытарыяй дзейнасці пункта, ніхто адсюль не адыходзіць без дапамогі.

Кансультацыйны пункт паспяхова супрацоўнічае з Гарадской камісіяй па вырашэнні алкагольных пытанняў, якую ўзначальвае бурмістр Андрэй Сцепанюк. Апрача гэтага ў горадзе дзейнічае антыалкагольная амбулаторыя, у якой працуюць псіхолаг Дарота Аль-Араб, псіхіятр Кшыштаф Гадлеўскі і медсястра.

— У першым паўгоддзі г.г. арганізавалі мы прафілактычныя акцыі сярод школьнай моладзі, — расказвае Анеля Лучай. — Ва ўсіх пачатковых і сярэдніх школах горада праца вялася па дзвюх прафілактычных праграмах: „Ной" і „Дропс". У першай праграме на 8 сустрэчах удзельнічала 990 чалавек; у другой у пачатковых школах удзельнічала 383 вучні і 167 бацькоў, а ў сярэдніх — адпаведна 390 і 312. Агулам прафілактычнымі праграмамі ў першым паўгоддзі абнялі мы 1763 вучні і 479 бацькоў.

Пад патранатам Гарадской камісіі па справах вырашэння алкагольных праблемаў у горадзе адбыліся два мерапрыемствы па прапагандаванні цвярозага спосабу жыцця. У красавіку ў беларускім ліцэі ў імпрэзе пад лозунгам „Цвярозасць заўсёды модная, дык будзьма моднымі" ўдзельнічала 280 вучняў. А ў чэрвені ў школе н-р 2 у мерапрыемстве прысвечаным здароваму харчаванню і экалогіі прынялі ўдзел усе вучні.

Сёлета камісія прызначыла 1080 зл. на арганізацыю летняга адпачынку для чатырох дзяцей. Усе школы вядуць таксама летнюю акцыю пад лозунгам „Радасць без алкаголю, канікулы без рызык". З боку камісіі школам былі перададзены каляровыя плакаты і лістоўкі, якія распаўсюджваліся сярод бацькоў.

— Ужо пяты раз бельская гарадская гміна ўдзельнічала ў Агульнапольскай канферэнцыі гмін вядучых у галіне антыалкагольнай прафілактыкі, — з гонарам заяўляе Анеля Лучай. — У маі ў Канстанціне на 115 удзельнікаў канферэнцыі Падляшскае ваяводства прадстаўлялі толькі чатыры асобы: з Ломжы, Сейнаў, Сувалкаў і я — з Бельска-Падляшскага.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**
*Фота аўтара*

# Больш адказнасці

Унутры пачакальні чыгуначнай станцыі ў Чаромсе знаходзіцца тэлефонная будка. Гэтай дабрадзейнасцю карыстаецца шмат жыхароў пасёлка ды замежныя госці. Неаднойчы нават у чарзе прыходзіцца пачакаць да таксафона, бо гэта ў Чаромсе адзіны пункт агульнага карыстання. Патрэбу паставіць другі таксафон бачылі многія чарамшукі, гмінны самаўрад, як і гайнаўскае аддзяленне сувязі.

Праязджаючы аднойчы вуліцай побач гандлёвага павільёна, прыкмеціў я новую тэлефонную будку. Вельмі ўсцешыўся я гэтым. Ды не толькі я. Дачка таксама карысталася ўжо гэтым тэлефонам. Месца для яго адпаведнае, у цэнтры пасёлка, дзе найбольшае збо рышча людзей, даступнае кожнаму і ў любы час.

22 ліпеня, калі я хацеў патэлефанаваць з-пад гандлёвага павільёна, на маё здзіўленне выявілася, што ў таксафоне няма ўжо трубкі. Віселі адны, жыўцом вырваныя правады.

На жаль, многія з нас неакуратна ставяцца да грамадскай маёмасці, не процідзейнічаюць вандалізму і хуліганству. Людзі найчасцей прыкідваюцца, што не бачаць, як хуліганы нішчаць супольнае дабро, каб не выступаць перад праваахоўнымі органамі ў час расследавання справы, а тым больш нажываць сабе ворагаў у асяроддзі хуліганскіх падлеткаў. Прыкладаў такіх паводзін можна прыводзіць многа. Напрыклад, 24 ліпеня, гадз. 17-18. Каля дома культуры адбываецца фэст. Многія бацькі прыйшлі сюды з дзецьмі і пакінулі іх без нагляду. Адны папіхаліся паміж сабою на сцэне за выступаючымі артыстамі, іншыя ганяліся на веласіпедах вакол сцэны і паміж гледачамі, перашкаджаючы і адным, і другім. На фэсце выступала шмат замежных калектываў. Што замежнікі падумаюць пра грамадства Чаромхі?

Іншы прыклад. Многія кузаўцы скардзяцца, што ў час канікулаў чаромхаўскія падлеткі ганяюцца на матацыклах з вялікай хуткасцю, робячы пры тым шмат шуму і ствараючы пагрозу дарожнаму руху. Калі я аднойчы намякнуў пра гэта раённаму камендanту паліцыі ў Гайнаўцы, той мне заявіў: „Мы бездапаможны ў гэтай справе. Раз хацелі злавіць аднаго дарожнага пірата. Праз некалькі дзён атрымалі ад яго бацькоў скаргу на паліцыянтаў, што быццам бы тыя, ганяючы іхняга сына на матацыкле стварылі яму смяротную небяспеку, бо ўцякаючы ён мог разбіцца".

На маю думку, бацькі больш павінны адказваць за сваіх дзяцей, за іхнія паводзіны. Не абазначае гэта, што праваахоўныя органы вымушаны глядзець праз пальцы на адмоўныя з'явы. Калі прынцыпова будзем трымацца законаў (як адны, так і другія) мо зможам выкараніць пустазелле ў маладым пакаленні.

**Уладзімір СІДАРУК**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Такі мне сон прысніўся, што страх і пісаць. Быццам увайшла я ў сваю кватэру, а там усюды поўна нейкіх вужакаў, змей. Божа! Як іх многа! Яны паўзаюць, клубяцца, сыкаюць. На падлозе няма жывога месца, дзе можна было б ступіць нагой. Усюды гэтыя гадзюкі.

Бачу я, што і па сценах яны лезуць, улазяць аж на столь. Во-во зваліцца адна вужака на маю галаву. Мяне агортвае дзікі страх. Не ведаю, куды падзецца. Ну, так я і думала. Адна гадзюка засычэла, падняла галаву і ўкусіла мяне за шыю. Ад страху я прачнулася.

Астроне! Я думаю, што гэты сон кепскі. Я маю вялікія жыццёвыя праблемы. Пэўна, справы пойдуць у кепскім напрамку. Я цяпер суджуся з маім былым мужам. Калі я адышла з дзецьмі ад яго, то не думала, што не вярнуся дахаты. Але было ўжо як вытрымаць. Прыходзіў дахаты, калі хацеў. Піў, гуляў, не думаючы пра тое, як ён крыўдзіць мяне. А што ўжо гаварыць пра дзяцей, якім на хлеб і малако не хапае.

Я думала, што толькі напужаю яго, а пасля ён знойдзе нас у той жанчыны, дзе мы нанялі пакойчык, і пакаецца, і больш ніколі-ніколі не будзе ні піць, ні біць мяне, ні абзываць нас брыдкімі словамі. А ён узяў і падаў на развод. Я выйшла з дому, нічога не ўзяўшы з большых рэчаў. Калі мы развяліся, высветлілася, што ён не мае ахвоты са мной нічым падзяліцца. Справа падзелу маёмасці трапіла ў суд, але без грошай што высудзіш... У яго ёсць грошы, і закон гарой стаіць за ім. А мае дзеці ходзяць у парваных чаравіках.

**АЛЕНА**

Алена! Твой сон менавіта гаворыць, што ёсць у цябе люты вораг, які толькі і разглядаецца, каб неяк укусіць цябе. Пэўна, мае пры гэтым яшчэ і памагатых, бо тых гадзюк жа было шмат. І ўсё ж такі адной удалося ўкусіць цябе, так што падрыхтуйся.

**АСТРОН**

Якія мы людзі

# Апанас ды Вера

Апанас, калі жаніўся, працаваў у ваяводскім камітэце партыі ў адным з колішніх ваяводстваў. Вядома, тады ён быў камуністам, дык шлюб узяў толькі грамадзянскі.

Апанасава жонка-прыгажуня верыла ў Бога, часта хадзіла ў царкву, але што зробіш — спадабаўся ёй быў Апанас, да таго ж быў на адказнай пасадзе і нябедны.

Нарадзілася Апанасу і Веры чацвёра дзяцей. Пахрысціла іх Апанасіха пакрыёму ў царкве і сказала: хай растуць на добрых беларусаў. Апанас быццам бы і не ведаў.

Калі салідарнікі перанялі ўладу, упала ПСЛ і развалілася ПАРП. Апанас адышоў на заслужаную пенсію. Жыве спакойна, ходзіць у царкву. Паверыў у Бога. Заўсёды з Верай і дзецьмі стаяў наперадзе вернікаў.

Калі падраслі ягоныя дзеці, найстарэйшы сын Піліп ажаніўся. Змяніў веравызнанне — адышоў да іегавістаў. З бацькамі сустракаецца рэдка. Дачка Марыся закончыла адукацыю ў беластоцкай палітэхніцы, там пазнаёмілася была з католікам Яцкам. Узяла шлюб у касцёле, цяпер бацькоў „кацапаў" і не прызнаюць і нават раяць, каб ехалі ў Мінск: „там ваша месца". Другі сын Андрэй пайшоў да баптыстаў. Наймалодшая дачка была ў бацькоў „вочкам у галаве" і ўсё было для Ёлі — і кватэра, і машына. Закончыла медыцынскую акадэмію. У час вучобы чатыры гады сябравала з Меткам. Хадзілі яны і ў царкву, і ў касцёл, і да сведкаў Яговы, наведвалі і баптыстаў. Калі Ёля зацяжарыла, Метак загадаў: шлюб бярэм у касцёле, я на тваю веру не пайду! Як сказаў, так і зрабілі. Пабраліся, жывуць у Ёлінай кватэры, якую выкупілі яе бацькі, але да іх ніякае справы не маюць.

Цяпер Апанас і Вера сваім дзецям непатрэбны.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Каса хвораму

7 ліпеня а 7 гадзіне ў навінах беластоцкага радыё я пачуў, што 70-гадоваму мужчыну пагражала страта ненароджанага дзіцяці і ёй атрымаў ад лекара рэцэпт на дарагое лякарства для падтрымання цяжарнасці. Не толькі яму прыпісваў той лекар такія „адпаведныя" дарагія лякарствы, чым навёў на страты Падляшскую касу хворых на больш за 30 тысяч злотаў. Лекар прызнаўся да сваёй правіны.

На маю думку, такога лекара, які свядома прыносіць страты і нажываецца на нашых грамадскіх грошах трэба судзіць і пакараць недзе на 10 гадоў турмы ды пазбавіць назаўсёды правоў выконвання лекарскай прафесіі. Іншыя тады баяліся б рабіць падобнае, а нам усім, можа, паменшалі б падаткі. Ды, на наш сялянскі розум, заўсёды так ёсць, што „рука руку мые", і таго лекара на многа не засудзяць... Калі б падобнае зрабіў рабочы ці селянін — гэта ж звычайнае ашуканства і злачынства! — то іх пакаралі б, як след!

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

**Фрашкі пра нашых**

## Багацей

Начытаны і вельмі мондры,
Але не мае цёплай коўдры,
З-пад пледа, дзіравага ад молі,
Ногі тырчаць худыя, вечна голыя.
Ды ён не наракае, ён не плача,
Бо ён шчаслівы, хоць, па-людскаму — іначай.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. маса зернепадобных яечак, якія адкладваюцца рыбамі, земнаводнымі, малюскамі, 8. корм для свойскай жывёлы і птушак, 9. спартсмен, які ўдзельнічае ў ралі, 10. тайны агент, 11. буйное прамысловае прадпрыемства, 13. турма, 15. участак лесу, адведзены пад высечку, 16. штат ЗША ў Ціхім акіяне, 20. абгяжаранне абавязкамі, 22. Іван, савецкі маршал, камандаваў 1-м Прыбалтыйскім фронтам, 23. невялікі гандлёвы магазін, 27. вялікі англійскі горад над рэчкай Мерсі, 29. венік з яловых галінак надзеты на доўгую палку, 30. адлегласць паміж расшыранымі вялікім і малым пальцамі рукі, 31. завостраны кусок дрэва або металу, 32. шасты з высока прыбітымі выступкамі для хады, 33. абраз, 34. ячэйкі з воску, якія робяць пчолы для захоўвання мёду.

**Вертыкальна:** 1. кароткае жазло з патанчэннем на канцы ў выглядзе шара, 2. выкапнёвы мінерал, 4. пабудова ля вады для купання, 5. музычны духавы клавішны інструмент, што складаецца з набору труб, у якія мяхамі напампоўваецца паветра, 6. кухонная печ з канфоркамі, 7. апора гідратэхнічнага збудавання, 12. лячэбная травяністая шматгадовая расліна з вялікім прадаўгаватым лісцем і жоўтымі кветкамі, 14. бязлітасны, жорсткі чалавек, 16. рухомая складка, якая ўтварае край рота, 17. прылада для ўзважвання, 18. горад між Раставам-на-Доне і Азоўскім морам, 19. дом у загараднай мясцовасці для летняга адпачынку, 21. прапаведуе неабмежаваную свабоду асобы, 24. заканадскі штат ЗША, 25. сталіца Татарстана, 26. вялікае беларускае возера, 27. часта мяняе месца працы для асабістай выгады, 28. злучэнне элементаў сярэдняй ступені акіслення з кіслародам. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 26 нумара**

**Гарызантальна:** сліва, Акутагава, хімік, татэм, кіт, Нуадыбу, Унамуна, бар, Чубут, навес, Даніловіч, сусед.

**Вертыкальна:** Гімалаі, Слуцк, азарт, Ахмадабад, Артымовіч, хрушч, Манес, куб, тур, аваліст, тэніс, невад.

Рашэнне: **Мікола Ермаловіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Пра героя

Герой не лез у свет праз тыя ж вароты, што і ўсе звычайныя носьбіты стрававальных шляхоў — прынёс яго белы бусел у чырвоную капусту. Рос ён шчасліва, як яблынька ў садочку. Днём ганяўся басяком і ў кароткіх штоніках наперагонкі з ветрам, а вечарамі слухаў казак пра страшную Бабу Ягу, якія поўнілі яго нянавісцю да ўсялякага зла. У школе прагна смактаў кніжныя веды, найбольш з буквара. Асабліва спадабаўся яму мілавідны дабрадзей на першым месцы граматы, які быў увасабленнем усяго, што шчасцем завецца. І ўжо тады герой рашуча вырашыў падацца яго светлашляхавым следам і змагацца супраць Бабы Ягі, якая была ўвасабленнем усялякага зла. Рос герой, Баба Яга без ягонага ўдзелу расплывалася як у казцы ў нябыт, а зло не ўступала. І герой, які з буквара ведаў, што носьбітам зла з'яўляецца вораг, даў сабе зарок знайсці яго і падзвіжніцка расправіцца з ім. Дзеля гэтага герой не падаўся за трыдзевяць зямель, але ўзорам практычнага дона Кіхота рашыў знайсці яго побач сябе. Ягоны зрок спыніўся на Бабе Хібе. Баба Хіба, мала што была бабай, а гэта ж бабаў чорт пасылае туды, дзе сам не зможа, але яшчэ вызывала ў героя адчуванне нейкай атавістычнай яму нянавісці да ўсяго таго, што не было бусліным дарам. Асабліва здзіўленне выклікала ў героя тое, што Баба Хіба ўмела сама пісаць; лічыў ён гэта вельмі шкоднай заганай у абстаноўцы, калі ўсё добрае было ўжо напісана ў буквары, а Баба Хіба з буквара не спісвала. Герой прытрымоўваўся погляду, што пісанне пра тое, пра што яшчэ не было пісана, пагражае захаванню традыцыі і таму найбольшай пашанай у яго карыстаўся перапісчык. Герой, праўда, таксама не быў няўмекам: умеў ён чытаць, але, будучы адбуслінным, чытаў ён заўсёды між радкамі і вычытваў не тое, што было напісана Бабай Хібай на патрэбы звычайных негеройскіх розумаў; гэта яшчэ больш мацавала героя ў перакананні, што ўсялякае пісанне Бабы Хібы шкоднае. Асабліва ж шкодным лічыў ён тое, што ў ягоным тлумачэнні Баба Хіба ставілася да яго не накаленна, як да адбуслінага ўвасаблення дабра, але нейк фанабэрыста, быццам да звычайнага смерда. Здавалася яму, што Баба Хіба неяк чапляецца да яго, быццам нічога другога ў яе космасе і не існавала, быццам яна жыла толькі яго коштам. Фанабэрыстасць Бабы Хібы бралася з таго, што герой гадавітай але хвацкай яшчэ ёй трохі падабаўся і, згледзеўшы яго ўвагу да яе, мроіла яна хаця крышку пачубіцца з ім. Бачачы скіраваны ў яе напрамку ягоны позірк, яна збянтэжана адварочвалася задам і нагіналася палоць чырвоную капусту, а яе спадніца залётна калыхаючыся падцягалася часам нават вышэй лытак. Герой жа, які, як вядома, з'явіўся на свет неардынарным шляхам, хаця і чытаў працы Фрэйда, аднак тлумачыў іх на свой спосаб, значыць без ніякага звычайнага толку: калі ўсе гаварылі пра шкоднасць абортаў, герой у той час хадзіў па жабістым балоце і праганяў белых бусло ў чырвоную капусту. І падумалася яму, што Баба Хіба гэтакім чынам, які недакапустны люд называе прываблівaннем, хоча паказаць яму тое, да чаго ён ставіўся са спадчыннай яму агідай. І раззлаваны да крайнасці накінуўся ён на Бабу Хібу і амаль пакаціў яе. Баба ж Хіба, памацаўшы, што ў героя цвёрдыя адно кулакі, з крайняй ад расчаравання злосцю шпурнула яго ад сябе ды плюнула слінай, што была ёй ужо пацякла на мрою пра здачу героя, а ён на ўвесь свой космас расплакаўся. Не скаліце за гэта з героя зубоў, толькі бярыцеся шліфаваць тыя вароты, якіх ён не адолеў; на верны шлях.

**Адам Маньяк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чым розніцца жанчына ад мужчыны?

— Калі жанчына хоча быць шчаслівай з мужчынам, павінна яго дасканала разумець ды крыху кахаць. Калі ж мужчына хоча быць шчаслівым з жанчынаю, павінен яе вельмі кахаць і зусім не старацца разумець.

* * *

— Цікава, што жанчыны бачылі раней у мужчынах...

— Калі раней?

— Калі не было яшчэ грошай.

* * *

— Вельмі мне падабаецца твая жонка.

— Мне б таксама яна падабалася, калі б была тваёю.

* * *

Муж паехаў у санаторый. Праз тыдзень прысылае тэлеграму: „Прадай радыё, прышлі адзін мільён". Пасля двух тыдняў пасылае другую тэлеграму: „Прадай тэлевізар, прышлі тры мільёны". Калі муж вярнуўся, у санаторый паехала жонка. Не мінуў і тыдзень, як муж атрымоўвае першую тэлеграму: „Пасылаю адзін мільён, купі радыё".

* * *

Сын пытае бацьку:

— Якім бокам вуліцы павінен мужчына весці жанчыну?

— Тым, з якога няма вітрынаў.

* * *

— Вы, жанчыны, — гаворыць муж жонцы, — нават не ведаеце, колькі вы абавязаны жывёлам...

— Не разумею.

— Вось, для прыкладу: грызуны дастаўляюць вам скуры на футра, кракадзілы на сумкі, вужы на абутак, а нарэшце заўсёды знойдзецца такі асёл, які за ўсё гэта заплаціць.

* * *

— Са мною будзеш жыць, як у раю.

— Ці гэта абазначае, што не буду мець што на сябе апрануць?

* * *

— Так цябе кахаю, што не хапае мне слоў, каб гэта выказаць...

— Каханы, найважнейшае тое, каб хапала табе грошай.

* * *

— Чаму ты спазніўся, Андрэй? Ужо дзве гадзіны чакаю, як ідыётка!..

— А ці гэта мая віна, што не ўмееш чакаць як інтэлігентны чалавек?

* * *

— Цікава, каторы з маіх ухажораў будзе найбольш прыгнечаны, калі выйду замуж?

— Той, які з табою ажэніцца.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Праз месяц выходжу замуж.

— Пэўна твой нарачоны шугае ад радасці...

— Так, бо выходжу за яго бацьку.

* * *

Размова двух сяброў:

— Мая Жэнька не хоча чакаць; папрашу яе бацьку згоды на шлюб.

— Ты хіба яго не ведаеш; выкіне цябе вон за дзверы.

— Я і разлічваю на гэта.